

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 7 снежня 1990 г. № 49 (3563) ● Цана 10 кап.


## ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ І КАЗАННЕ ВЁЎ...

Калі я патрапіў у вёску Барані, дзе нарадзіўся і правёў маленства Казімір Сваяк, мне здавалася, што цывілізацыя абмінула яе. Старыя хаты, большасць «пазірае» пабітымі шыбамі, плеценая агароджа. Вакол вёскі — гушчар шматвяковага лесу, праз вярсту цячэ рэчка.

Вось і хата, дзе жылі Стаповічы. Зараз тут жыве Яніна Францаўна Янюк. Паводле яе слоў, раней хата была ўдвая даўжэй, а побач знаходзіліся вялікае гумно, калодзеж, ды і сама гаспадарка займала больш месца.

**— З маленства памятаю, як Сваяк прыходзіў у вёску,— кажа Яніна Францаўна.— Заўсёды цукеркамі частаваў, нават спаборніцтва рабіў, хто лепш малітву раскажа, той больш цукерак і палуча. Вакол яго заўсёды моладзь гуртавалася, і ўсе пабеларуску размаўлялі.**

**— А рукапісы, фотаздымкі не засталіся?**

**— Былі, сын мой усё яго дзённікам захапляўся, я на працу, ён на вышкі чытаць яго... Знік некуды. Мо і брат Стэфан у Польшчу павёз. Карціна была, Сваяк маляваў: ён сядзіць чытае кнігу, а ззаду Клюшчанскі касцёл. Таксама знікла...**

Мне пашанцавала, я знайшоў яшчэ двух сучаснікаў Сваяка: Вераніку Мікалаеўну Шапуру, якая спявала ў хоры, арганізаваным Сваяком, і Казіміра Францавіча Хадорскага, у хаце якога збіраліся Я. Купала, К. Сваяк, А. Станкевіч.

Вераніцы Мікалаеўне 97 год, шмат пазабывала, але добра памятае «Сваяковы» песні.

Калі я запытаўся пра хор, яна нечакана заспявала:

**Ой, ляцелі гусі**
**З-пад Беларусі...**

А потым — «Зялёны дубочак», любімую песню Сваяка.

**— Памятаю я Стаповіча,— кажа Вераніка Мікалаеўна,— высокі быў, добры, казанне на беларускай мове спраўляў, кнігі даваў чытаць, ноты.**

**— А першае прадстаўленне памятаеце?**

**— Як жа! У гумне Смольскіх рабілі... Брат Валера ў п'есе іграў...**

**— Клімовіч і Стаповіч заўзятыя беларусы былі,— гэта ўжо Казімір Францавіч,— разам народ вучылі. У «хаўрусе» мастаком Ракіцкі быў, здольны, намаляваў вобраз Маці Божай на касцёле, таксама партрэты Сваяка, Станкевіча — яны ў касцёле віселі... Памятаю, Купала жартаваў са Сваяком:**

**— Што ты маеш са службы ў касцёле?**

**— Я потым на небасхіле буду адпачываць, а ты ў пекле.**

...Скончылася маё падарожжа па Сваяковых мясцінах. Вельмі мала засталося людзей, якія яго памятаюць: у Засвіры, дзе апошнія гады працаваў Стаповіч, жыве яшчэ адна бабуля, якую ён вянчаў, у Свіры ёсць старыя, якія памятаюць вершы Сваяка. Але ж пошук працягваю...

**Г. БАБКІН.**
**Фота аўтара.**

Астравецкі раён.





Землякі, сучаснікі (К. Ф. ХАДОРСКІ і В. М. ШАПУРА).



Хата ў Баранях, дзе нарадзіўся СВАЯК.





Той самы Клюшчанскі касцёл...



## АД НАШАГА ПАРЛАМЕНЦКАГА КАРЭСПАНДЭНТА

# ПРА ХЛЕБ НАДЗЁННЫ І ХЛЕБ ДУХОЎНЫ

### Ідзе гаворка на III сесіі Вярхоўнага Савета БССР XII склікання

**Сесія адкрылася 5 снежня ў абстаноўцы падкрэслена стрыманай, нават будзённай. Уражанне такое, нібыта дэпутаты дамовіліся пакінуць па-за сценамі парламента тыя палітычныя страсці, якія бушавалі ў рэспубліцы ўвесь лістапад.**

**Як вядома, за час, які папярэднічаў сесіі, на адрас Вярхоўнага Савета паступіла няма́ла гучных адозваў, заяў, зваротаў прадстаўнікоў самых розных пластоў грамадства, самых розных палітычных рухаў. Вось і ў сераду раніцай на плошчу Леніна дружна прыйшла стройная калона мужчын і жанчын з сумкамі, дыпламатамі і парасонамі (ішоў мокры снег) і разгарнула перад Домам урада чырвоныя палотнішчы з заклікам «абараніць сацыялізм». Пастаялі — і гэтак жа дружна пакінулі плошчу. Пайшлі, мабыць, ствараць і спажываць каштоўнасці нашага ладу...**

**Дэпутацкую стрыманасць першага дня можна вытлумачыць і звычайнай стомленасцю. Час, што мінуў з папярэдняй сесіі, не быў парламенцкімі канікуламі, прайшоў у напружанай працы ў камісіях. У гэтым сэнсе цяперашняя сесія павінна вянчаць перыяд надзвычайнай заканатворчай актыўнасці.**

**З іншага боку, дэпутаты настройваюцца, што называецца, на доўгае дыханне. На парадку дня сесіі — трыццаць шэсць пытанняў, большасць з якіх вызначальныя для сённяшняга і заўтрашняга дня нашага грамадства. Найперш па значнасці можна вылучыць блок законапраектаў, якія павінны спрыяць укараненню новых эканамічных адносін.**

**У першы дзень работы сесіі на некалькі пытанняў парламенцкага карэспандэнта «ЛіМа» адказаў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

**— Станіслаў Станіслававіч, як бы вы сцісла ахарактарызавалі становішча ў рэспубліцы на момант адкрыцця сесіі?**

— Пра становішча так шмат сказана, яно настолькі дакладна ахарактарызавана, што, бадай, няма ўжо чаго дадаць. Ламаем старыя структуры, новыя нараджаюцца вельмі марудна, таму і ўтвараецца вакуум. У ім дзейнічаюць тыя структуры, якія законам не прадугледжаны. Тут і ценевая эканоміка, і карупцыя, і рост злачыннасці.. Людзі занепакоены, устрывожаны ўсім гэтым.

Але — што рабіць? І як?

Ведаеце, мяне непакоіць наша ўсеагульная неканструктыўнасць. Напрыклад, з парламенцкай трыбуны вельмі лёгка заклікаць да адказнасці прэм'ер-міністра, увесь урад, нічога канкрэтна не прапануючы. Да адказнасці — і ўсё тут!

**— Ці не занадта перагружаны парадак дня сесіі? Нават колькасна — трыццаць шэсць пытанняў!**

— Я пагадзіўся б з вамі, калі б у нас была магчымасць не разглядаць той ці іншы прапанаваны законапраект. Усе яны важныя, усе надзённыя, жыццёва неабходныя. Іншая справа, ці паспеем мы на гэтай сесіі разгледзець іх у поўным аб'ёме.

**— Ваш прагноз: што выкліча найбольш гарачыя спрэчкі?**

— Зямля. Ведаеце, я не падзяляю думку адпаведнай камісіі Вярхоўнага Савета, а таксама XXXI з'езда КПБ аб тым, што не павінна быць прыватнай уласнасці на зямлю. Нам нельга застацца на старых пазіцыях. Мы не павінны баяцца, што прыватная ўласнасць у пэўных маштабах паставіць пытанне аб скасаванні нашага ладу. Гэта я кажу як прыхільнік сацыялістычнага выбару. Іншая справа, што гэта будзе ўжо не той сацыялізм, які мы будавалі 70 гадоў.

**— Парламент і культура... Сёння вышэйшую ўладу настойліва заклікаюць павярнуцца тварам да духоўнай сферы. На якія захады парламента можа разлічваць творчая інтэлігенцыя, усе работнікі культуры?**

— На парадак дня сесіі выносяцца статус Акадэміі навук рэспублікі і заканадаўства аб культуры. Гэта тыя пытанні, якія непасрэдна тычацца людзей творчага пошуку.

Вельмі шкадую, што вымушаны гэта сказаць у інтэрв'ю «ЛіМу», але я павінен быць шчырым... Я не думаю, што прыняцце Вярхоўным Саветам гэтых актаў што-небудзь кардынальна зменіць. А ў дэкларацыях мы не маем сёння нястачы. Трэба было б вырашаць іншае пытанне — шукаць сродкі і аддаваць іх на развіццё навукі і культуры. І каб размеркаваннем гэтых сродкаў займаліся менавіта дзеячы навукі і культуры; так мы выключым некампетэнтнасць, грубае ўмяшанне ў тонкія сферы.

Магчыма, я памыляюся. Людзі, думку якіх я вельмі паважаю, лічаць неабходным прыняцце закона аб культуры на гэтай сесіі. Таксама буду яго падтрымліваць. Але калі мы найперш не выправім эканоміку — нічога не будзе. У жабрацкай краіне не можа быць высокага развіцця культуры.

**— Станіслаў Станіслававіч, апошняе пытанне. Яно не тычыцца працы сесіі, але непасрэдна закранае вашу пазіцыю, калі хочаце, ваш імідж як палітычнага дзеяча. У нядаўнім інтэрв'ю вы сваё далейшае знаходжанне ў КПСС звязалі з вынікамі XXXI з'езда КПБ. І вось — з'езд завяршыўся...**

— Вынікамі XXXI з'езда КПБ я катэгарычна не задаволены. У пэўным сэнсе як абразу ўспрымаю тое, як вырашана пытанне аб уласным статуце КПБ. Фактычна ж такой грамадскай арганізацыі не існуе, ёсць «атрад» КПСС, хоць я лічу, што суверэнная рэспубліка можа мець і сваю кампартыю. Другая абраза — на з'ездзе я амаль не чуў беларускага слова. Пакінуў мяне ў роспачы і новы склад ЦК.

Што ж, у такім разе, мяне ўсё ж утрымлівае сёння ў партыі? Ведаеце, на з'ездзе была меншасць, пераважна маладых людзей, кіраўнікоў пярвічных арганізацый, якія, як мне здалося, вельмі свядомыя людзі, патрыятычна зарыентаваныя. Я чалавек разважлівы, і мне не захацелася пакуль што сваім публічным выхадам з партыі, скажам так, падбухторваць іх на раскол. Наяўнасць гэтых людзей сведчыць, што становішча не зусім безнадзейнае.

Разам з тым, партыя ў значнай ступені адрываецца ад тых, чые інтарэсы збіраецца адстойваць. Гэта мяне вельмі непакоіць. Таму і мае словы, сказаныя ў інтэрв'ю «Собеседнику», застаюцца ў сіле. Тых, з кім я не згодзен, было на з'ездзе значна больш.

**...Калі пішуцца гэтыя радкі, на сесіі — гарачыя спрэчкі: быць ці не быць прыватнай уласнасці?**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

# Форум інтэлігенцыі Беларусі

**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны пры падтрымцы грамадскіх арганізацый Беларусі правяло ў Мінску 1 снежня рэспубліканскі форум інтэлігенцыі з такім парадкам дня: «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі». Удзельнічалі дэлегаты ад творчых саюзаў, грамадскіх, навуковых і культурна-асветных арганізацый, а таксама прадстаўнікі кіраўніцтва Вярхоўнага Савета БССР, шэрагу міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі.**

**Удзельнікі форуму заслухалі і абмеркавалі шырокае кола праблем, звязаных з крытычным эканамічным, сацыяльным і палітычным становішчам, з гэткім жа станам культуры ў грамадстве. На форуме выступілі Ніл Гілевіч, Васіль Шаладонаў, Людміла Сухнат, біскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Юрый Хадыка, Зянон Пазняк і іншыя дзяржаўныя і грамадскія дзеячы рэспублікі, дзеячы культуры і мастацтва Беларусі, прадстаўнікі навукова-тэхнічнай і гуманітарнай інтэлігенцыі.**

**Форум прыняў зварот да народных дэпутатаў і ўсіх грамадзян Беларусі, які «ЛіМ» прапануе сёння ўвазе чытачоў. Больш падрабязная гаворка пра рэспубліканскую сустрэчу інтэлігенцыі пойдзе на старонках штотыднёвіка пазней.**

**НАШ КАР.**

# ЗВАРОТ

## да народных дэпутатаў і ўсіх грамадзян Беларусі

Мы, удзельнікі рэспубліканскага форуму «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі», выказваем боль, трывогу і занепакоенасць тым, што ў рэспубліцы ўсё больш абвастраецца эканамічны, сацыяльны і палітычны крызіс у грамадстве. Далейшае паглыбленне яго можа прывесці да нацыянальна-культурнай і экалагічнай катастрофы, да поўнага разбурэння грамадства, і адказнасць за гэта ляжа перш за ўсё на вышэйшы орган улады БССР — Вярхоўны Савет і прызначаны ім урад рэспублікі.

Як ні горка аб гэтым думаць, але менавіта дзяржава ў асобе органаў вышэйшай улады і кіравання рэспублікі служыла інструментам антыбеларускай палітыкі кіруючай партыі і падаўляла беларускую нацыянальную культуру і мову. У гэтых умовах, зыходзячы з прынятай Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, заклікаем народных дэпутатаў усіх узроўняў, грамадзян рэспублікі ўсвядоміць, што без прыярытэтнага развіцця культуры, навукі, нацыянальнай школы, а таксама без адраджэння беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця немагчыма існаванне цывілізаванага грамадства, немагчыма аднавіць і перабудаваць эканоміку і падняць дабрабыт народа, дабіцца сацыяльнай абароненасці чалавека, адрадзіць нацыянальную духоўнасць.

Беларуская ССР павінна стаць гарантам захавання і развіцця беларускай культуры і ствары́ць неабходную дзеля жыццядзейнасці матэрыяльную аснову, асігнуючы на гэтыя мэты неабходную долю сваіх бюджэтных сродкаў. Культуру, якая прыносіць неацэнную карысць грамадству апасродкавана, праз удасканальванне ўсіх формаў чалавечай дзейнасці, нельга пераводзіць на фінансавае самазабеспячэнне, абкладаць падаткам. Мы заклікаем народных дэпутатаў БССР і Саветаў усіх узроўняў, усіх грамадзян рэспублікі ўключыцца ў рух за адраджэнне беларускай культуры і мовы, сплаціўшы ім доўг, сцвердзіўшы на справе ў палажэннях законаў аб дзяржаўным бюджэце БССР, аб падатках, а таксама ў асновах заканадаўства аб культуры прынцып прыярытэтнага развіцця беларускай мовы і культуры ў Беларускай дзяржаве.

Разам з тым, выказваем заклапочанасць і абурэнне тым, што Закон аб мовах у Беларускай ССР у многіх сферах грамадскага жыцця рэспублікі не выконваецца, больш таго, шэрагам дзяржаўных органаў, устаноў, прадпрыемстваў, а таксама некаторымі грамадскімі арганізацыямі свядома ігнаруецца. Прычынай таму з'яўляецца нацыянальна-культурны нігілізм, які пусціў глыбокія карані ў свядомасці значнай часткі грамадзян Беларусі, негатыўна адбіваючыся на грамадска-культурных працэсах, і які служыць адным з ганебных сродкаў разбурэння грамадскай супольнасці ў дзейнасці пэўных палітычных сіл.

У гэтай сувязі мы лічым, што нігілістычныя адносіны або варожасць да беларускай культуры, аднолькава як да культуры кожнай з нацыянальных супольнасцяў Беларусі, падлягаюць рашучаму асуджэнню з боку Беларускай ССР і не павінны мець месца ў палітычнай, культурна-асветнай, канфесійнай або іншай дзейнасці на тэрыторыі рэспублікі.

Культурная дзейнасць, якая ўяўляе сабою неад'емную частку дзейнасці па адраджэнні і ўмацаванні нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту Беларускай ССР, можа і павінна стаць надзейным стабілізуючым і кансалідуючым фактарам у жыцці беларускага народа і ўсіх нацыянальных супольнасцяў рэспублікі, а таксама ў дзейнасці палітычных сіл грамадства.

1 снежня 1990 г. г. Мінск.

# ДВАЦЦАЦЬ ДВА З... ШАСЦІСОТ

**Каля 600 вядомых літаратараў краіны прадстаўлены ў энцыклапедычным даведніку «Пісьменнікі народаў Савецкага Саюза», выпушчаным сафійскім выдавецтвам імя д-ра Петра Берона. Гэтае ўнікальнае выданне дае магчымасць на прыкладзе канкрэтных імёнаў прасачыць, як развівалася ў асноўным савецкая шматнацыянальная літаратура, хоць робіцца экскурс і ў дарэвалюцыйны час.**

**Прыводзяцца звесткі з жыцця і творчасці прадстаўнікоў сорак адной літаратуры, змешчана падрабязная бібліяграфія выкананых у Балгарыі перакладаў кожнага з аўтараў.**

**Дваццаць два пісьменнікі з шасцісот — нашы. Беларуская літаратура прадстаўлена А. Адамовічам, Р. Барадуліным, В. Быкавым, М. Багдановічам, Ф. Багушэвічам, Я. Брылём, П. Броўкам, Н. Гілевічам, В. Дуніным-Марцінкевічам, У. Караткевічам, Я. Коласам, К. Крапівой, Я. Купалам, А. Макаёнкам, І. Мележам, І. Навуменкам, Ф. Скарынай, М. Смятрыцкім, М. Танкам, І. Чыгрынавым, К. Чорным, І. Шамякіным.**

### 10 СНЕЖНЯ — СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

**Леанід ЯЎМЕНАЎ,**
**доктар філасофскіх навук**

# ЧАЛАВЕКУ І НАРОДУ

**Правы чалавека — гэта і выток, і вынік сапраўднай дэмакратыі, сапраўднага гуманізму. Дэмакратыі і гуманізму як ідэалогіі. Дэмакратыі і гуманізму як сацыяльна-эканамічнай і палітыка-прававой практыкі. Гэта значыць, што без развітай ідэйна-тэарэтычнай і юрыдычнай сістэмы правоў чалавека, без развітай сістэмы ажыццяўлення правоў чалавека і народаў дэмакратыя і гуманізм не існуюць.**

Нездарма правы чалавека — і як катэгорыя палітыка-прававога мыслення, і як сацыяльна-палітычная рэальнасць — рашуча не прызнаваліся і грэбліва адкідваліся як нацыянал-сацыялісцкім таталітарызмам Гітлера, так і «інтэрнацыяналісцкім» таталітарызмам Сталіна.

Нічога дзіўнага ў тым няма. Абедзве формы палітычнай дэспатыі над непаўторным духоўным светам кожнага чалавека ставілі адну адзіную, гранічна дагматызаваную, гіпертрафіраваную, адчужаную ад чалавека і грамадства ідэалогію. Над усімі намаганнямі, інтарэсамі, практычнымі ўчынкамі — жахлівы абсалют у выглядзе звышдзяржавы і гранічна адзяржаўленай палітычнай партыі. А яшчэ вышэй — звышабсалютная, абагоўленая абстракцыя, галоўная фігура дзяржавы і партыі — фюрэр ці правадыр. Чалавек з галоўнага суб'екта гісторыі ператвараўся ў абсалютнае нішто, у пыл на ботах правадыроў.

Як ведаць, што было б сёння з намі і з усім астатнім светам, калі б абодва таталітарызмы не сышліся ў крывавай бойцы? Роднаснага ў іх было зашмат, невыпадкова ж яны нейкі час ледзь не браталіся...

Аднак гэтыя сілы, антыподныя па вытоках і роднасныя па сутнасці, перадзяліўшы, пераканалізаваўшы свет, непазбежна павінны былі развязаць ваенны канфлікт паміж сабою: суб'ектам планетарнага таталітарызму не могуць быць дзве ці некалькі сіл у адным гістарычным часе, у адной гістарычнай прасторы. Полівалентнасць магчымая і нават непазбежна толькі для сацыяльна-палітычных усталяванняў дэмакратыі. Суіснаваць і ўзаемна дапаўняць адна адну могуць толькі яны, бо законы прыцягнення і інтэграцыі ўласцівыя толькі ім. Для разналікіх дэспатыяў уласцівы толькі працэс узаемаадчужэння, які імкнецца да ўзаемазнішчэння. Не кажучы ўжо пра тое, што таталітарызм і дэмакратыя — антаганісты, і не ўмяшчаюцца ў рамках «мірнага суіснавання», імкнуцца да «ўзаемаінтэграцыі» гвалтоўным чынам. Пра гэта і сведчыць тая вялікая кроў, што на працягу амаль паўстагоддзя пасля другой сусветнай бойні ты-

# САЮЗНЫ ДАГАВОР: што нам прапануюць?

Я вельмі баюся, што, прагаварыўшы амаль пяць гадоў пра неабходнасць абнаўлення нашага Саюза, мы сёння будзем тэрмінова фарсіраваць падпісанне новага Саюзнага дагавора на той канцэптуальнай аснове, якая закладзена ў праекце, прапанаваным Прэзідэнтам. Альтэрнатыўных жа праектаў няма.

Вы звярнулі, чытач, увагу на тактыку, якой часта трымаецца А. Лук'янаў у Вярхоўным Савеце? Прапаноўваецца, напрыклад, праект таго ці іншага закона. Выступаюць дэпутаты, гавораць, што праект нікуды няварты, бо заганная сама яго канцэпцыя. Нічога, дабрадушна адзначае старшыня, давайце мы яго прымем за аснову, а потым унясём усе неабходныя змены і дапаўненні. Парламентарыі глытаюць гэтую прынаду, уносяць папраўкі, змены, дапаўненні, бо яны ўпэўнены, што ўдзельнічаюць у заканатворчай дзейнасці. Большасці з іх нават няўцям, што старшыня ўжо сваю справу зрабіў, правёў менавіта той законапраект, які хацеў правесці.

Менавіта гэтая тактыка А. Лук'янава перш за ўсё прыгадалася мне, калі я пазнаёміўся з праектам Саюзнага дагавора. У яго аснову, як гэта відавочна, пакладзены прынцып федэрацыі. Добры або кепскі гэты прынцып сам па сабе — гаворка цяпер не аб тым. Важна другое: як канцэпцыя дагавора, якая базіруецца на гэтым прынцыпе, улічвае рэальную сітуацыю ў краіне, можа быць прынята рэспублікамі? Думаю, што ніяк не ўлічвае: праект прадаўжае нашу «гістарычную традыцыю» — ісці не ад жыцця, а ад «тэорыі», ад схемы. У ім проста адмятаецца як штосьці неістотнае тое, што ідэя федэрацыі за гады існавання Саюза канчаткова скампраметавала сябе, а час для яе рэабілітацыі нашым «дэмакратычна абраным парламентам» безнадзейна ўпушчаны. Поўнасцю ігнаруецца і той факт, што гэта ідэя знаходзіцца ў невырашальнай супярэчнасці з прынятымі некаторымі рэспублікамі, у тым ліку Беларуссю, дэкларацыямі аб дзяржаўным суверэнітэце, што яна супярэчыць ужо заключаным на падставе гэтых дэкларацый дагаворам паміж рэспублікамі, у прыватнасці, дагаворам Расіі з Украінай і Казахстанам, Украіны з Узбекістанам. Ці захочуць рэспублікі ануляваць свае дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце? Ці пойдуць Расія, Украіна, Узбекістан, Казахстан на тое, каб ануляваць заключаныя дагаворы? Ці магчымы тут нейкі кампраміс? Вельмі сумняваюся — занадта ўжо розняцца канцэптуальна гэтыя дакументы, і таму некаму давядзецца «пасгупіцца прынцыпамі». Вось толькі каму — Цэнтру або рэспублікам?

Што ж, аднак, прапаноўвае праект дагавора?

Пачну з заўвагі, не звязанай непасрэдна з яго зместам, але якая, тым не менш, мае прынцыповае значэнне. У праекце гаворыцца: «Саюзны дагавор уступае ў сілу з моманту яго падпісання. Для рэспублік, якія яго падпісалі, з гэтай даты лічыцца страціўшым сілу Дагавор аб утварэнні СССР 1922 года». З рэспублікамі, якія падпішуць дагавор, усё ясна: для іх Дагавор 1922 года губляе сілу. А як быць з тымі рэспублікамі, якія па тых ці іншых прычынах яго не падпішуць? Як быць з Грузіяй, Латвіяй, Літвой, Эстоніяй, якія ўжо заявілі цвёрда і пэўна: Саюзны дагавор яны не падпішуць ні пры якіх умовах? Ці азначае гэта, што для іх Дагавор 1922 года захавае сілу? Цяжка меркаваць, што людзі, якія рыхтавалі праект, не звярнулі ўвагу на гэтую яго «недагаворанасць».

Выступаючы на цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета СССР, Прэзідэнт прыгразіў «непаслухмяным»: мы, маўляў, яшчэ спытаемся ў народаў рэспублік — хочуць ці не хочуць яны жыць у новым Саюзе. Што ж, відаць, гэта справядліва. Няясна іншае: чаму гэтае правіла мяркуецца ўжыць толькі да тых рэспублік, якія не захочуць падпісаць Дагавор? Дзе крытэрый? Тут павінен быць адзіны падыход: калі ўжо праводзіць рэферэндум, то праводзіць усюды, калі не праводзіць, то нідзе не праводзіць. Дарэчы, правіла гэтае трэба было б замацаваць ужо ў тэксце Дагавора.

Яшчэ адна заўвага — канцэптуальнага плана. У праекце гаворыцца: «Кожная рэспубліка — удзельнік дагавору з'яўляецца суверэннай дзяржавай і валодае ўсёй паўнатой дзяржаўнай улады на сваёй тэрыторыі». Цяжка зразумець, якім чынам рэспубліка, будучы суб'ектам федэрацыі, можа валодаць «усёй паўнатой дзяржаўнай улады на сваёй тэрыторыі». Па логіцы ж атрымліваецца, што тады саюзныя органы не валодаюць на яе тэрыторыі роўна ніякай уладай. А на гэтую ўладу яны яшчэ як прэтэндуюць. Так што гэта альбо прапагандысцкі лозунг, або неразуменне самой сутнасці суверэннасці.

Давайце ўдумаемся як след і ў змест артыкула 5 праекта, у якім дадзены пералік паўнамоцтваў (г. зн. фактычна правоў, але для нашых заканадаўцаў правы і паўнамоцтвы — адно і тое ж), якія цэнтральная ўлада мае намер узяць сабе. Тут пералічаны ўсе ключавыя пазіцыі, з якімі звязана суверэннасць дзяржавы. Затое ўдзел рэспублік у ажыццяўленні паўнамоцтваў Саюза (артыкул 6) сфармуляваны ўсяго толькі адным абзацам, да таго ж настолькі неканкрэтным, што яго можна тлумачыць, як хочаш. Паўтараю: удумайцеся ў прапаноўваемае праектам «размежаванне паўнамоцтваў», і вы зразумееце, якую цану мае шырокавяшчальная яго заява аб тым, што рэспубліка «валодае ўсёй паўнатой дзяржаўнай улады на сваёй тэрыторыі». А каб не засталося на гэты конт ужо ніякіх сумненняў, я папрашу звярнуць увагу на артыкул 8, дзе нам абяцаюць, што падаткі і зборы, неабходныя для ажыццяўлення паўнамоцтваў Саюза ССР, будзе ўстанаўліваць сама цэнтральная ўлада. Іначай мовіць, калі цэнтральнай уладзе спатрэбіцца дзесятак-другі мільярдаў рублёў для аказання, скажам, «інтэрнацыянальнай дапамогі», то яна і запатрабуе яе з вас.

Нават калі пагадзіцца з праектам федэратыўнага прынцыпу пабудовы Саюза, то і ў гэтым выпадку павінна быць выразна агаворана: гэта правы і паўнамоцтвы Саюза, гэта правы і паўнамоцтвы рэспублік.

Далей. Рэспублікі самі павінны вызначыць, якія правы і паўнамоцтвы яны гатовы дэлегаваць Саюзу, іначай кажучы, у якой ступені яны згодны абмежаваць свой суверэнітэт. Метадалогія, пры якой цэнтральная ўлада вызначае, што яна мае намер узяць сабе, а што выдаткаваць ад шчадрот сваіх рэспублікам, — гэта метадалогія старога, імперскага мыслення. Усе гэтыя доўгія дзесяцігоддзі мы знаходзіліся на ўтрыманні «партыі і ўрада». Менавіта яны давалі нам і шчаслівае дзяцінства, і забяспечаную, бестурботную старасць. Цяпер вось яны мяркуюць ашчасліўіць нас «усёй паўнатой дзяржаўнай улады на сваёй тэрыторыі». Я цалкам згодны з Б. Ельцыным: сапраўды дэмакратычны Саюз суверэнных рэспублік можа быць сфарміраваны толькі «знізу», г. зн. праз сістэму дагавораў непасрэдна паміж рэспублікамі.

Прадоўжым, аднак, разгляд праекта. У артыкуле 7, які абвяшчае «свабоднае развіццё і абарону ўсіх форм уласнасці, уключаючы ўласнаць грамадзян», нічога не гаворыцца аб прыватнай уласнасці, без якой, як вядома, ніякая паўнакроўная рыначная эканоміка немагчыма. Калі прыняць пад увагу змешчанае тут жа палажэнне аб тым, што «рэгуляванне заканадаўствам рэспублік адносін уласнасці на зямлю, яе нетры і іншыя прыродныя рэсурсы не павінны перашкаджаць рэалізацыі паўнамоцтваў Саюза», гэтае падазрэнне перарастае ў крайні непакой. На самай справе, уявіце сабе такую сітуацыю: рэспубліка ўводзіць у сябе інстытут прыватнай уласнасці, а Саюз тут жа яго анулюе на той падставе, што гэта «перашкаджае рэалізацыі паўнамоцтваў Саюза».

Артыкул 9 прысвечаны пытанням заканадаўства. У ім гаворыцца, што рэспубліканскія законы маюць вяршэнства ў межах кампетэнцыі рэспублік, саюзныя — у межах кампетэнцыі Саюза. Тое, што саюзнае заканадаўства павінна дзейнічаць у межах правоў, якія рэспублікі дэлегавалі Саюзу, а рэспубліканскае — у межах правоў, якія рэспублікі пакінулі сабе, — усё гэта зразумела і адпавядае прынцыпу федэрацыі. Але вось паняцце «вяршэнства законаў» — гэта юрыдычны нонсенс: закон ёсць закон, і адзін закон не можа быць больш «законным», чым другі. У межах дэлегаваных рэспублікамі Саюзу правоў павінны дзейнічаць саюзныя законы. І не таму, што яны маюць нейкае «вяршэнства», іншых проста быць не павінна. Дэлегаваўшы Саюзу пэўныя правы, рэспублікі дэлегуюць разам з імі ўсе паўнамоцтвы па іх рэалізацыі, у тым ліку юрыдычнаму рэгуляванню. І, наадварот, Саюз не надзелены правам заканатворчай дзейнасці ў межах тых правоў, якія рэспублікі пакінулі сабе. Тут павінны дзейнічаць рэспубліканскія законы, і ніякіх іншых не павінна быць.

Што датычыць органаў улады і кіраўніцтва, то тут заслугоўвае ўвагі прапанова ўвесці ў Савет Федэрацыі кіраўнікоў рэспублік, а ў Кабінет міністраў — кіраўнікоў урадаў рэспублік. На першы погляд, мера досыць дэмакратычная. Аднак калі суаднесці гэтую меру з тымі функцыямі, якія заклікаты выконваць Савет Федэрацыі і Кабінет міністраў, то міжволі напрошваецца пытанне: калі ж кіраўнікам рэспублік і кіраўнікам урадаў рэспублік усім гэтым займацца? Ці не будзе гэта найчыстай вады «прадстаўніцтвам», якім мы ўжо сытыя па горла? Няясна таксама, чаму персанальны склад Савета Федэрацыі, акрамя кіраўнікоў рэспублік, вызначае выключна Прэзідэнт, без узгаднення з Вярхоўным Саветам? Калі я не памыляюся, то ў аналагічным выпадку такое права не прадстаўлена нават Прэзідэнту ЗША.

Можна было б яшчэ пра многае пагаварыць. Напрыклад, праект зусім абыходзіць пытанне працэдуры выхаду рэспублікі са складу Саюза. І гэта пасля сітуацыі з Літвой!

У заключэнне хацелася б адзначыць наступнае. Калі Прэзідэнт прывядзе сваю пагрозу ў дзеянне і прызначыць рэферэндум, многія, я ўпэўнены, будуць галасаваць супраць такога Дагавора. Нават калі Анатоль Іванавіч Лук'янаў прапануе прыняць яго ўсяго толькі «за аснову». І гэта пры тым, што я прынцыповы прыхільнік Саюза.

**В. АКУЛАЎ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар.**

танаў таталітарызму малымі рэкамі няспынна нясе чалавецтва ў акіян агульначалавечага небыцця.

Аб'ектыўна, як адна з праяў неверагоднай супярэчлівасці гісторыі, сталінскі таталітарызм быў усё ж адной з галоўных сіл супрацьстаяння гітлерызму і вызвалення народаў ад расісцкай няволі, нацыянал-сацыялістычнага генацыду. Надзвычайную гераічную і самаахвярную ролю адыграў у гэтай аб'ектыўнай гістарычнай місіі просты савецкі чалавек.

Але суб'ектыўна, і гэта ўсё больш выразна паўстае ў святле сённяшняга дня, — то была бойка дзвюх несумяшчальных па вытоках гігантаў дэспатыі, якія мелі агульны намер — абсалютнае панаванне пэўнай ідэалогіі, палітыкі, эканамічнай сістэмы над усім белым светам, абсалютнае панаванне таталітарнай дзяржавы над чалавекам, яго асобай, над нацыямі і народамі.

Так, наш уласны, родны таталітарызм, фарбуй яго ў чорныя ці чырвоныя колеры, быў таксама звычайным таталітарызмам. Пра тое сёння сведчыць многае. Пачнём хоць бы з ідэалогіі «сусветнай пралетарскай рэвалюцыі», і шматлікіх, амаль да апошніх часоў практычных захадаў па яе гвалтоўным экспарце... А ганебная афганская авантура? А ідэалогія і палітыка абсалютнай першаснасці інтарэсаў ды ідэалаў таталітарнай дзяржавы і адзінай партыі, іх правадыроў — перад інтарэсамі і патрэбамі як канкрэтнага чалавека, так і цэлых народаў?... А палітычны генацыд? Сталінскія ГУЛАГі ды Курапаты нічым па сутнасці не адрозніваюцца ад гітлераўскіх Бухенвальдаў і Хатыняў. У рэшце рэшт, іх агульны падмурак — палітычны таталітарызм.

Пры гэтым я катэгарычна не падзяляю думку некаторых калег, якія атаясамліваюць сталінскі таталітарызм з сацыялізмам, камунізмам, сапраўдным інтэрнацыяналізмам. Сталінскі таталітарны дзяржаўна-манапалістычны сацыялізм, які мала чым адрозніваецца ад таталітарнага дзяржаўнага капіталізму гітлераўскай Германіі, — жахлівая з'ява. Пад прывablівым для мас ідэйна-прапагандысцкім шалупіннем «сацыялістычнай» дэмагогіі яна ўвабрала ў сябе антысацыялізм, антыкамунізм, антыінтэрнацыяналізм. Антысавецкасць, калі хочаце.

Сапраўды. Марксісцкі навуковы сацыялізм меў на мэце ліквідаваць эксплуатацыю чалавека чалавекам. Сталінскі таталітарны сацыялізм замяніў гэтую форму эксплуатацыі масавай і непараўнальна больш жорсткай эксплуатацыяй чалавека дзяржавай. Марксісцкі навуковы сацыялізм меў на мэце стварэнне (на першых этапах) дзяржавы дыктатуры пралетарыята. Яе ўнутранай сутнасцю павінна была стаць шырокая і глыбокая дэмакратыя для ўсіх працоўных пластоў і класаў. Яе галоўная сутнасная функцыя — стваральная: вытворчая ды ўпраўленчая. Рэпрэсіўныя акцыі гэтага дзяржаўнага ўтварэння маглі быць накіраваныя толькі супраць варожых дзеянняў прадстаўнікоў нізрынутага ладу. Такім чынам, новая дзяржава мусіла быць грамадзянскай дзяржавай. Сталін канчаткова ліквідаваў гэтую дыктатуру пралетарыята разам з яе дэмакратыяй працоўных і для працоўных. Дыктатура пралетарыята (чытай: улада Саветаў) была заменена абсалютнай дыктатурай партыйна - дзяржаўнай бюракратычнай эліты. Сутнасць і галоўная функцыя гэтай дыктатуры — рабаўладальніцкая дэспатыя і рэпрэсіўнасць, накіраваныя на «ўласныя» класы і пласты: рабочых, сялян, інтэлігенцыю. Вытворчасць, матэрыяльная і духоўная, уся сфера ўпраўлення былі працяты менавіта гэтай сутнасцю, і гэтай функцыяй новай дыктатуры. Такім чынам замест грамадзянскай дзяржавы была створана і ўзвышана над усім грамадствам адчужаная ад яго і варожая яму таталітарная дзяржава эліты.

Пералічэнне падобных тэзаў можна доўжыць яшчэ і яшчэ. Ды і фактычны рад для ілюстрацыі абсалютнай антысацыялістычнасці і антыкамуністычнасці сталінскага таталітарызму таксама жахліва доўгі. Але вынова можа быць толькі адна: марксісцкі сацыялізм і камунізм — яскравая мара аб росквіце ўсіх «богам» дадзеных малых і вялікіх правоў чалавека і народаў; сталінскі таталітарызм — руйнаванне ўсіх фундаментальных і нефундаментальных правоў чалавека і народаў.

Дык ці можна атаясамліваць сталінскае пачварнае грамадска-дзяржаўнае ўтварэнне з марксізмам, сацыялізмам, камуністычнай ідэяй і рухам, з «камуністычным рэжымам»? З рэжымам, рэжымам дэспатыі і таталітарызму, — не толькі можна, але і неабходна. З сацыялізмам, камунізмам?.. З якога боку палітычнай геаметрыі яно б ні ішло — катэгарычна нельга!

Тое ж самае і з КПСС. Яе абвінавачваюць сёння ва ўсіх грахах таталітарызму, патрабуючы сысці з палітычнай сцэны... Але шматмільённая партыя радавых камуністаў, ангажаваная тысячагадовымі агульначалавечымі ідэаламі сацыяльнай праўды і справядлівасці да абяздоленых, не мае непасрэднай віны ў трагедыі народа і краіны. Дарэчы, у сваёй уласнай трагедыі. Як арганізацыя і рух, яна была першай растаптаная ды спляжаная чорнымі смерчамі рэпрэсій татальнай дыктатуры, якую ажыццяўляла партыйна-дзяржаўная эліта. Яна, гэтая шматмільённая партыя радавых, заўсёды была і дагэтуль застаецца пазбаўленай рэальнай палітычнай і эканамічнай улады. У сэнсе палітычных правоў шматмільённая палітычная партыя стала ў сталінскія часы прававой жабрачкай. Яна, гэтая радавая армія, была заўсёды і застаецца дагэтуль бяздонным рэзервуарам і авангардам смяротнікаў і ахвярнікаў у сацыяльна - эканамічных і мілітарысцкіх авантурах палітычнай эліты, агромністым статкам для забеспячэння сытага жыцця і ўтульнага дабрабыту вялікіх і мудрых даяроў. Мо адзіная яе віна ў тым, што, прыдушаная жалезнай пятой таталітарызму, яна не змагла разгледзець у свой час жахлівай небяспекі сталінскага цэнтралізму, адкінуўшага нават напамін аб дэмакратыі і дэмакратычнасці. Дазволіла зрабіць з сябе не толькі армію смяротнікаў і ахвярнікаў, але і стартавую пляцоўку для прайдзісветаў усіх масцей.

Але калі мы хочам стаць цывілізаванымі людзьмі і цывілізаваным грамадствам, аўтэнтычны рух трэба адраджаць гэтак жа, як і ўсё астатняе, зганьбаванае і знішчанае. Камуністычную ідэю, камуністычныя памкненні спарадзілі не Маркс, не Энгельс і не Ленін. Гэтая ідэя і гэтыя памкненні маюць за плячыма тысячагод-

(Працяг на стар. 15).

# УЗІРАЮЧЫСЯ Ў ТВАРЫ

### Лірычна-палітычны абразок

ЛЮБЛЮ ўзірацца ў незнаёмыя твары, гэтыя красамоўныя абалонкі чалавечых сутнасцей. Твары засяроджаныя і ўсмешлівыя, нафарбаваныя і азызлыя, адухоўленыя і пазбаўленыя нават пробліску інтэлекту...

Кожнага дня праязджаю побач з Домам мадэляў, «упрыгожаным» манументальным пано з выявай рэвалюцыйнага народа. Як бы навісаючы над Нямігай, пано нязменна прыкоўвае да сябе ўвагу. І зусім не мастацкімі вартасцямі. Непрыемна ўражваюць постаці змагароў за лепшае будучае. Хада іх рашучая, твары суровыя, у кожнай рысе—бальшавіцкая нязломнасць і пераканананасць. (Такімі, ва ўсякім разе, іх думалі паказаць стваральнікі). Праўда, напрошваюцца і іншыя азначэнні. Мо не суровыя гэта твары, а жорсткія, бязлітасныя? Мо не рашучасць у кроку, а відавочная пагроза? Зразумелая справа, такія ні перад чым не спыняцца ў хадзе да светлай мары чалавецтва. І — каб ні кроку назад.

Так, адступаць няма куды — напісана было на тварах афіцыйных асоб, што прысутнічалі на нядаўнім кастрычніцкім мітынгу. На абліччах прыгнечанасць і няўцямнасць: штосьці скранулася ў свеце, штосьці прыйшло ў рух і можа скончыцца абвалам... Няўтульна стала на прыбранай сцягамі плошчы, сіберна. Нейкая не святочная зусім атмасфера. А раней жа... Як не ўспомніць: дэманстранты, транспаранты, каляровыя шары, кветкі... (Цікава, што адчувае шар, з якога выходзіць паветра?)

Няма таго, што раньш было. Пройдзе парад, і пачнецца — ёсць інфармацыя — іншае шэсце. З іншымі калонамі—добраахвотнымі, з іншымі лозунгамі — не заштампаванымі...

І зноў — твары, твары, твары... У асноўным мужчынскія, ды такія падобныя, як быццам блізнят сабралі на які-небудзь конкурс або злёт. На экране — XXXI з'езд КПБ. Падабенства, магчыма, ад нудоты, якую навявае справаздачны даклад. Але не толькі. У пасторнай зале сышліся не проста таварышы па партыі. Большасць з дэлегатаў—людзі, якія зрабілі службу партыі сваёй прафесіяй. У звычайных чалавечых зносінах яны, верагодна, бываюць рознымі — эмацыянальнымі, непасрэднымі, дасціпнымі. Злуюцца на дзяцей, лашчаць унукаў, рагочуць над анекдотамі. Там яны — сапраўдныя, жывыя. Тут жа, у афіцыйнай абстаноўцы, пры афіцыйнай падзеі, як і заўжды **пры выкананні**, людзі нібы маскі на твары надзелі. Пераўвасобіліся. Увайшлі ў ролю. І самі не заўважаюць, што маскі даўно прыраслі. Назіраючы за тым, каму лёсам наканавана з выглядам ідалаў выседжваць у прэзідыумах, неаднойчы шкадавала таварышаў. Іх высушыла, пазбавіла вастрыні ўспрымання, па сутнасці скалечыла **функцыя!**

Яны не толькі прылады, механізмы Сістэмы, але і ахвяры яе. За хатні камунізм, аказваецца, трэба плаціць! І плацяць — хто сумленнем, хто годнасцю, і ўсе — проста душой (савецкі варыянт узаемададчыненняў Фаўста і Мефістофеля). Таму так дзівішся, калі сустракаеш сярод функцыянераў людзей незасушаных і незашораных, карацей — нармальных. На жаль, іх не так многа.

Імпульсіўным і незакамплексаваным чалавекам, мяркуючы па шматлікіх сведчаннях, быў Ленін. З ягонай усмешкай тольгі гагарынская, бадай, можа параўнацца. А ці ведаеце вы апошнія прыжыццёвыя здымкі Ільіча? З папярэднімі іх не пераблытаеш. Увасобленая пакута глядзіць на нас запалымі вачамі правадыра. Можна дапусціць, што пакутуе ён ад немагчымасці быць у гушчы жыцця, ад вымушанай адлучанасці ад кіраўніцтва, улады. Але мне даводзілася чуць і інакшае тлумачэнне: ён усвядоміў, **што** ўзышло з пасеянага, разуверыўся ў справе свайго жыцця. З імглы наступнасці, з нашага зусім не светлага далёкага, можа, бачацца яму «дары», што прынясуць калісьці да помніка няўдзячныя аб'екты сацыяльнага эксперыменту?

А яшчэ мне ўспамінаецца твар жанчыны, якая дэманстратыўна піхнула нагой кветкі ля падножжа помніка. Дзесьці бачыла я гэтую зацятасць, гэтую непрымірымасць. Дзе б гэта, а? На металічным узоры сацрэалізму!

Кола замкнулася. Шар зноў напаўняецца самазадаволенасцю і імкнецца ў працяг. Аднекуль даносіцца нядужае ветэранскае «ўра», узмоцненае газетамі да грамавога раскату. Няўхільная хада ў нікуды працягваецца...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

# НАС ЗНОЎ АБАРАНЯЮЦЬ...

### З нагоды адной заявы

Узяцца за пяро мяне прымусіў «Зварот мінскага палітклуба «Камуніст» да членаў Кампартыі Беларусі, да ўсіх грамадзян рэспублікі, што захавалі вернасць ідэалам Вялікага Кастрычніка», надрукаваны ў «Вячэрнім Мінску».

Я член КПСС амаль чвэрць стагоддзя, журналіст і член Саюза пісьменнікаў. З верасня гэтага года я пенсіянер, а таму чалавек адносна незалежны, не зацікаўлены ні ў кар'еры, ні ў падкормцы з рук партыйнага апарату. Разлічваю на давер маіх чытачоў і выказваю свае думкі, шчыра жадаючы падзяліцца жыццёвым і чалавечым вопытам з вышыні сваіх турботных і няпростых шасцідзесяці гадоў.

Але вярнуся да таго звароту палітклуба. Чаго патрабуюць, да чаго заклікаюць яго аўтары? І надалей змагацца за ідэалы Кастрычніка. Але ж хіба наш шматпакутны сённяшні дзень не яскравае ўвасабленне, практычнае ажыццяўленне «ідэалаў Кастрычніка»? Менавіта гэтае статус-кво і імкнуцца захаваць кіраўнікі партыйных структур, падпусціўшы ідэалагічнага туману, які ўжо мала на каго ўздзейнічае. Так, пакуль што кампартыя валодае немалой практычнай уладай, мае вялікі партапарат, сродкі, маёмасць. Яна накіроўвае дзейнасць КДБ, арміі, праваахоўных органаў. Партыя змагла ўкараніцца ў абраных Саветах, члены партыі складаюць большасць у беларускім парламенце.

**Зараз партыйныя функцыянеры, змагары ідэалагічнага фронту, чапляюцца за апошнюю надзею — імя Леніна. Маўляў, вось каб ён жыў, сацыялізм быў бы пабудаваны. Я згодзен з тым, што У. І. Ленін быў палітычным дзеячам сусветнага маштабу. Але ж не будзем заплюшчваць вочы на тое, што менавіта ён стварыў таталітарную партыю, якая праз кроў і рэпрэсіі пацягнула мільёны людзей (не папытаўшы іх згоды) да «светлай будучыні». Дарэчы, гэта пры Леніне пачалося знішчэнне лепшых прадстаўнікоў «старой» інтэлігенцыі, духавенства. Яго верныя паплечнікі, у першую чаргу крывавы кат Сталін развілі ленінскае вучэнне, ператварыўшы краіну ў суцэльны канцэнтрацыйны лагер.**

**Адным словам, вялікі Ленін па праву носіць імя заснавальніка нашай дзяржавы, менавіта такой, якой яна была 70 гадоў і якую цяпер, пераканаўшыся ў відавочнай няўдачы «эксперыменту», мы хочам абнавіць, павярнуць на шлях цывілізаванай, багатай, дэмакратычнай дзяржавы.**

Адзін з важнейшых інструментаў пабудовы менавіта такой краіны — перавод нашай занядбанай эканомікі на рэйкі рыначных адносін, дзе сапраўды будзе рэалізаваны дэвіз: «кожнаму — па працы». Вось гэта больш за ўсё хвалюе і аўтараў звароту мінскага палітклуба «Камуніст». Барацьба з тым рынкам, па іх разуменні, ці не апошні шанц для абароны «рабочага чалавека, які жыве на сваю зарплату». І далей: «Пад выглядам рынку, які сам па сабе не пярэчыць руху да сацыялізму, грамадству навязваецца перадача грамадскай уласнасці ценявому капіталу». Ну, а ценявая эканоміка натуральна пагражае галечай, беспрацоўем, нават класавай і грамадзянскай вайной. Так. І я супраць ценявой эканомікі. Але навошта гэтую пачварную з'яву блытаць з цывілізаваным рынкам, пры дапамозе якога многія і многія краіны Захаду і Усходу дамагліся эканамічнага росквіту, акурат і пазбавіўшыся галечы мільёнаў працоўных? Трэба сказаць, што аўтары заявы не абмяжоўваюцца чыста «тэарэтычным» абгрунтаваннем сваёй пазіцыі, яны заклікаюць да актыўных дзеянняў, накіраваных супраць рыначных адносін: «На пасяджэннях палітклубаў.., у курылках і на рабочых месцах растлумачвайце людзям згубнасць і антынародную сутнасць прапануемых Цэнтрам эканамічных праграм»...

**Сярод маіх знаёмых шмат так званых «простых людзей» — рабочых, сялян. Што яны хочуць ад перабудовы? Перш за ўсё—волі, эканамічнай незалежнасці і справядлівасці. Стаць гаспадаром сваёй працы. Гаспадаром!**

**Чуў аднойчы такую скаргу рабочага:**

**— Я сем гадзін стаю ля станка і атрымліваю 200. А мой сусед пайшоў у кааператары і грабе грошы лапатай!..**

**— Дарагі мой,—адказаў я.— Не сусед твой атрымлівае многа, а ты—мала.**

Ці не гэтага небараку-рабочага збіраецца абараняць палітклуб «Камуніст»? Абараняць ад магчымасці зарабіць больш, ад магчымасці прадаваць сваю працу па дастойнай цане. У «Звароце» яго палохаюць вяртаннем эксплуатацыі. А хіба цяпер яго не эксплуатуюць, пакідаючы яму каля 20 працэнтаў рэальна зароблянага? І мой, і той «рабочы чалавек, які жыве на сваю зарплату», злаўчыўся б зарабіць больш, каб даць яму волю і магчымасць. І бог з ім, з сацыялістычным выбарам, абы жылося лепш!

Мне неаднойчы даводзілася быць у Італіі, і мне заўсёды цікава было даведацца, як здарылася, што Італія, пераможаная краіна, пасля вайны стала ці не пятай дзяржавай свету па ўзроўні дабрабыту людзей. І, дарэчы, прыродных багаццяў у яе нямнога, і зямля не дужа ўрадлівая, а, бач ты, дапамога па беспрацоўі куды большая, чым зарплата нашага рабацягі. Якіх толькі тавараў няма ў італьянскіх магазінах, цяпер ужо і не надта дарагіх (былі, помню, даражэйшыя)!

**Якая ў нас ці не самая зняважальная мянушка? Кааператар, прадпрымальнік. А там, у Італіі, бізнесмэн, менеджэр — самая паважаная прафесія. Бо ўсе гэтыя бананы, какосавыя арэхі, ананасы, сотні гатункаў сокаў і напіткаў, вяндліны, мяса і сыроў прывезлі ў магазіны яны.**

**— «Нажываюцца!» — скажа наш чалавек, гатовы «абараняць выбар Кастрычніка 1917 года».**

**Вядома, зарабляюць добра. Бо праца ў іх цяжкая, творчая і бяссонная. Бо інакш—нельга. Бо працаваць так, як у нас— абы дзень ды ноч, — грэшна. Трэба любой працы аддавацца цалкам. Пры такіх адносінах і ў нас не будзе рабочага чалавека, якога трэба «абараняць» і жывасілам цягнуць у светлую, бестурботную і лянівую, хоць і галодную, будучыню.**

Партыйныя пастыры з палітклуба «Камуніст» звяртаюцца і да балючай тэмы інтэлігенцыі: «рэалізацыя планаў, якія намячаюцца («цэнтрам» на чале з М. Гарбачовым.—**А. Ш.**), непазбежна вядзе да камерцыялізацыі духоўнай сферы, першай ахвярай якой будуць пяшчотныя парасткі беларускай нацыянальнай культуры, якая адраджаецца»...

Бачыце, на 70-м годзе партыйна-бюракратычнай аўтарытарнай улады і такі, раптам, клопат аб нацыянальнай культуры! Радуйцеся, таварышы майстры мастацтва, усе інтэлігенты, вас зноў спрабуюць абараніць. Як некалі абаранялі ад «тлятворнага ўплыву» Захаду, ад фармалістаў і касмапалітаў, ад творчых памылак і свабоднай канкурэнцыі талентаў.

Што, урэшце, трэба рабіць, каб не даць здзейсніцца варожым народу планам «цэнтра», не даць у рэспубліцы ходу свабоднаму, «капіталістычнаму» рынку, які так напалохаў аўтараў «Звароту»? Усё, аказваецца, проста: «Абаронцам карэнных інтарэсаў працоўных можа і павінна выступіць Камуністычная партыя». Ці—«Памятайце, што без аздароўленай партыі не аднавіць парадак на вытворчасці, у грамадстве, не пакончыць з карупцыяй, гандлёва - кааператыўнай мафіяй, не забяспечыць мірнага будучага для нашых дзяцей і ўнукаў».

Так і хочацца спытаць: «А дзе яна была раней—трыццаць, пяцьдзесят і семдзесят гадоў назад? Хіба не ведаеце, адкуль цягнуцца гэтыя пачварныя з'явы ў грамадстве?..»

Такія думкі ўзніклі ў мяне пасля прачытання гэтага «дакумента».

Я, вядома, не супраць існавання камуністычнай партыі, я супраць толькі яе манаполіі ва ўсіх сферах нашага жыцця. Павінна быць спаборніцтва розных партый, грамадскіх рухаў, ідэй.

Я аптыміст, і веру ў тое, што надыдзе час, калі мы будзем жыць у вольным, дэмакратычным грамадстве, дзе кожны чалавек будзе гаспадаром свайго лёсу і сваёй працы.

**Анатоль ШАЎНЯ.**

# *ТРОШКІ І БЕЛАРУСКІ ПРЫАЗЁРСК...*

Прыазёрск знаходзіцца далёка ад нашай рэспублікі — ён у Джэзказганскай вобласці Казахскай ССР, але горад гэты — трошкі і беларускі. Нядаўна прыйшоў адтуль ліст і нумар газеты «Рокаш», якую выпускае Прыазёрская гарадская рада Таварыства беларускай мовы. Спосаб выдання — не друкарскі, але газета ёсць, і прытым цікавая, са сваім тварам.

Кідаюцца ў вочы два эпіграфы. Першы — своеасаблівы сёння пароль наш: «Жыве Беларусь!» Другі, узяты з верша Максіма Багдановіча, заклікае: беражыце сваё, крэўнае, не дазваляйце ператварыць сябе проста ў насельніцтва. Памятаеце? «Бійце ў сэрцы іх, бійце мячамі. Не давайце чужынцамі быць...»

Матэрыялы нумара таксама нямала даюць і душы, і сэрцу. Мяркуйце самі. Хіба нельга не прыслухацца да думак «божай міласцю Вінцэнта Доўнар-Грынькевіча, шляхціча беларускага, пашпартнага паляка», выказаных у звароце «Да шляхты беларускай»: «Дзе ваш гонар, паны-шляхта, дзе ваш розум, дзе ваша сумленне? Душы вашых дзядоў не прызнаюць вас у задушны дзень, бо яны былі патрыётамі Белай Русі, як бы іх ні называлі — ці літвінамі, ці русінамі. Яны цвёрда знalі, што яны тутэйшыя, а не прышлыя, не набрыдзь, не навалач. Вы не стрыечныя, а родныя дзеці гэтай зямлі, што б там ні запісалі ў ваш пашпарт...»

А хіба не ўражвае інфармацыя пра адкрыццё ў Прыазёрску беларускай нядзельнай школы? Тут жа — кароткі агляд «Беларуская мова» С. Судніка.

«Не ўсіх дурных вайна пабіла» — так рэзка, але досыць пераканаўча палемізуе В. Сярпінскі з аўтарам артыкула «Загадкі палескіх пушчаў» П. Петрыкавым у ліпеньскім нумары «Политического собеседника».

У нумары ёсць паведамленне пра ўстаноўчую канферэнцыю Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і выступленне на ёй прадстаўніка Прыазёрска І. Супаненкі, верш С. Судніка «Жаданне»...

А яшчэ ў гэтым нумары прысутнічае просьба да чытачоў даслаць пры магчымасці хоць некалькі падручнікаў па беларускай мове і літаратуры на адрас: **472200, Казахская ССР, Джэзказганская вобласць, г. Прыазёрск, вул. Панфілава, д. 3. кв. 20, Судніку Станіславу Вацлававічу.**

Адгукнёмся на просьбу беларусаў з казахстанскага Прыазёрска?

**А. М.**

# РАТАВАЦЬ КУЛЬТУРУ

**Што трэба зрабіць, каб вывесці нашу культуру з гаротнага стану! Пэўны адказ на гэтае складанае пытанне дае праект «Асноў заканадаўства аб культуры Беларускай ССР», які, трэба спадзявацца, будзе разгледжаны на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР.**

**Аўтары артыкулаў, якія мы сёння друкуем, прапануюць дапоўніць праект заканадаўства некаторымі важнымі, на іх думку, палажэннямі.**

5 кастрычніка 1990 г. у «Літаратуры і мастацтве» быў апублікаваны праект Закона Беларускай ССР «Аб культуры БССР», выкананы рабочай групай, якую ўзначаліў член-карэспандэнт АН БССР В. Шабайлаў. Пасля публікацыі ў камісію Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і гістарычнай спадчыне прыйшло нямала крытычных заўваг, прапаноў, паартыкульных паправак, якія ў далейшай працы над праектам закона ў значнай ступені намі ўлічаны.

У шырокім абмеркаванні закона лейтматывам гучала думка аб стварэнні прававых і матэрыяльна-фінансавых гарантый, якія б падтрымлівалі і стымулявалі культурную і культурна-асветніцкую дзейнасць, бо інакш яна будзе камерцыйна дэфармавана і прафаніравана ва ўмовах пераходу грамадства да рыначных адносін. Трэба ясна зразумець, што культура не з'яўляецца (ва ўсякім разе, у сваім асноўным гуманістычна-творчым змесце) чыста вытворчай сферай і не зможа вытрымаць канкурэнцыі са звычайнымі таваравытворцамі.

Нельга дапусціць, каб эканамічны заняпад грамадства супаў з падзеннем яго культурнага ўзроўню. Таму першы прынцып «Асноў заканадаўства аб культуры Беларускай ССР» —не шкадаваць ні фінансавых, ні матэрыяльна-тэхнічных сродкаў на культуру. Я быў уражаны да глыбіні душы. калі, разгарнуўшы вынесены на бліжэйшую сесію праект дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР на 1991 год, убачыў, што цэнтралізаваныя выдаткі на забеспячэнне развіцця культуры ў параўнанні з 1990 г. павялічаны ўсяго ў 1,5 — 2 разы.

На наш погляд, — я кажу наш, таму што такі пункт гледжання быў цалкам атрыманы на нядаўняй нарадзе кіруючых работнікаў культуры розных рэгіёнаў рэспублікі, прадстаўнікоў творчых саюзаў, дзеячаў мастацтва, — дзяржаўнае фінансаванне развіцця культуры павінна зыходзіць з навукова-абгрунтаваных норм і складаць (па крайней меры **пры пераходзе да рынку** — менавіта на гэтай фармуліроўцы настойваў дырэктар нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы І. Вашкевіч) не менш за тры працэнты рэспубліканскага бюджэту мясцовых Саветаў. Трэцюю частку гэтых трох працэнтаў, зноў жа на нашу агульную думку, трэба выдаткоўваць па квотах на развіццё культуры ў сельскай мясцовасці, якая цяпер — пра гэта з болем гаварылі на нарадзе раённыя арганізатары культурнай дзейнасці — знаходзіцца ў гаротным, калі не сказаць, катастрафічным становішчы. А так жа вытокі, карані беларускай нацыянальнай культуры, адраджэнне якой з'яўляецца надзённай задачай. Дык няўжо дамо высахнуць гэтым крыніцам, гэтым караням?

У «Асновы заканадаўства аб культуры БССР» уключаны спецыяльны артыкул, які прадугледжвае дадатковыя стымулы і гарантыі развіцця культуры ў сельскай мясцовасці.

Як вядома, праект закона апрабіраваўся на некалькіх нарадах з удзелам, як кажуць, зацікаўленых асоб. Удзельнікі адной з іх, дарэчы, скліканай па ініцыятыве старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і гістарычнай спадчыне Н. Гілевіча, выказаўшы шэраг слушных заўваг адносна праекта закона, аднадушна падтрымалі зварот камісіі да народных дэпутатаў рэспублікі аб уключэнні ў парадак дня чарговай сесіі пытання аб разглядзе праекта «Асноў заканадаўства аб культуры». Такой думкі прытрымліваюцца і іншыя камісіі ВС.

Удасканалены праект закона трэба тэрмінова выносіць на разгляд сесіі яшчэ і таму, што наспела неабходнасць вызвалення прадпрыемстваў і іншых аб'ектаў культуры ад саюзных падаткаў. Гэтага патрабуюць літаральна ўсе работнікі культуры. Міністэрства культуры БССР, Саўмін, камісію ВС, якую ўзначальвае Н. Гілевіч, распрацоўшчыкаў закона літаральна закідалі пісьмамі па гэтым пытанні. Трэба быць самакрытычным. Тыя крыху «лібералізаваныя варыянты» артыкулаў па падатках і льготах на падаткаабкладанне, якое распрацоўшчыкі Закона «нарасцілі» ў ходзе папярэдняга абмеркавання, як відаць са шматлікіх зваротаў работнікаў культуры, іх не задавальняюць.

Пашыраная рабочая група ў рэшце рэшт прыняла рашэнне даць указаныя артыкулы ў радыкальнай рэдакцыі. Не ўдаючыся ў падрабязнасці, заўважу толькі, што сутнасць гэтай рэдакцыі ў тым, каб цалкам вызваліць ад падатку на прыбытак дзяржаўныя, ведамасныя (у тым ліку небюджэтныя, гасразліковыя) прадпрыемствы, што ажыццяўляюць культурную дзейнасць. Звышпрыбытак — у першую чаргу прадпрыемстваў, якія ажыццяўляюць у сферы культуры мэтанакіраваную камерцыйную дзейнасць, — павінен абкладацца прапарцыянальна свайму ўзрастанню прагрэсіўным падаткам. Не ўсё тут, вядома, вырашана. У прыватнасці, узнікаюць пытанні: як вылічаць звышпрыбытак, у якой прапорцыі павінен узрастаць прагрэсіўны падатак і г. д.

Відаць, гэтыя і падобныя да іх пытанні павінны быць вырашаны ў час абмеркавання на чарговай сесіі праекта Закона аб падатках і падаткаабкладанні ў БССР. Магчыма, туды павінен быць перанесены і адпаведны раздзел з «Асноў заканадаўства аб культуры».

Камісія Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, сама рабочая група прыйшлі да адзінай думкі (і яе, здаецца, падзяляюць работнікі Саўміна і Міністэрства культуры) аб тым, што агульны Закон не можа вычарпаць усяго аб'ёму прававой творчасці ў галінах культуры. Ён павінен служыць зыходнай базай, асновай для распрацоўкі і прыняцця цэлай серыі (як кажуць, «пакета») іншых заканадаўчых і нарматыўных актаў па розных напрамках, абласцях культурна-асветніцкай дзейнасці.

Напэўна, у першую чаргу трэба было б прыняць: Закон аб ахове, вывучэнні і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры, Закон аб інтэлектуальнай уласнасці і ахове аўтарскіх правоў, Закон аб бібліятэках і бібліятэчнай справе ў Беларусі (чарнавы яго варыянт ужо падрыхтаваны работнікамі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна), Закон аб архівах і архіўнай справе ў Беларускай ССР, Закон аб выдавецтве, Закон аб атэстацыі кадраў работнікаў культуры, Закон аб кінаіндустрыі, Закон аб тэатральнай справе, Закон аб стварэнні і выкарыстанні фондаў культуры. Закон аб аматарскіх аб'яднаннях, Закон аб творчых саюзах.

Апошні, паводле справядлівай заўвагі старшыні праўлення Саюза кінематаграфістаў В. Нікіфарава, мог бы значна стымуляваць творчую, арганізацыйна-эканамічную кансалідацыю прафесійных дзеячаў мастацтва.

**І. ШЫРШОЎ,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

# ПЕРААДОЛЕЦЬ ВЕДАМАСНЫ СТАНДАРТ

На мой погляд, у «Асновах заканадаўства аб культуры Беларускай ССР» трэба прынцыпова вызначыць статус клубных устаноў, іх сацыяльную арыентацыю.

Так, культасвета нямала зрабіла ў 20—30-я гады, асабліва ў справе ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці. Але ў наступныя дзесяцігоддзі ёй наканавана было выконваць ролю служкі «афіцыйнай» ідэалогіі, займацца культурным абслугоўваннем насельніцтва, што паставіла яе ў адзін шэраг са службай быту. Асветніцкая арыентацыя пакорліва сышла на другі план, саступіўшы месца выхаваўчай.

Да чаго ўсё гэта прывяло, нам вядома. І сёння яшчэ аб узроўні і становішчы культуры, скажам, у раёне мяркуюць толькі па культурна-асветніцкай дзейнасці, якая ў сваю чаргу ацэньваецца наяўнасцю клубаў, бібліятэк, музеяў. Вазьміце любы афіцыйны дакумент па культурным будаўніцтве ў рэспубліцы і вы ўбачыце прыярытэтныя задачы культасветы: «мець пэўную колькасць клубаў і дамоў культуры, бібліятэк, музеяў», альбо: «забяспечыць рэгулярную работу ў кожным Доме культуры і сельскім клубе пэўнай колькасці калектываў мастацкай самадзейнасці...»

Справядліва ўзнікае пытанне: а што дае чалавеку культурна-асветніцкая ўстанова? Так, клубы існуюць для людзей. Як быццам ісціна прапісная. Аднак на практыцы часцей за ўсё чалавек разглядаецца не як творца, а як пасіўны спажывец культуры.

Варта нагадаць тут разбухлую статсправаздачнасць, у якой дзейнасць клубаў ацэньваецца па 120 паказчыках. Больш за 60 пунктаў прадугледжана для паркаў, 650 — для бібліятэк. Атрымліваецца, што культасветустановы патрэбны не столькі насельніцтву, колькі самім гэтым установам — каб выканаць надуманыя планы і культурны «вал».

Відавочна, што толькі смелае і разумнае адмаўленне ў культурным будаўніцтве ад састарэлых догмаў і традыцый дасць магчымасць паспяхова рухацца па шляху духоўнага абнаўлення грамадства.

Жыццё яшчэ раз пераконвае, што чалавека, як аб'екта культурнага выхавання, трэба прыцягваць не ў культурна-асветніцкую, а ў культурна-адпачынкавую сферу. На маю думку, такі падыход не знайшоў належнага адлюстравання ў праекце «Асноў заканадаўства аб культуры Беларускай ССР». Патрэбна новая сацыяльная арыентацыя ўстаноў культуры. Асабліва гэта датычыць клуба, які павінен стаць цэнтрам рацыянальнай арганізацыі вольнага часу.

Дарэчы, ва ўсе часы ва ўсіх народаў клубам называлі і называюць грамадскую арганізацыю, якая аб'ядноўвае людзей па інтарэсах для сумеснай творчасці і адпачынку. Замест гэтага мы прыйшлі да клуба-ўстановы з залай і трыбунай для сходаў і нарад.

Трэба вярнуць сёлам, пасёлкам, райцэнтрам іх самабытную культуру. А гэта можна зрабіць толькі тады, калі мы здолеем на дзяржаўным узроўні скончыць з практыкай укаранення ў культурнае жыццё ведамаснага стандарту і адзінага нарматыву. Няўжо міністэрскія работнікі лепей ведаюць, хто патрэбны раёну — харэограф або рэжысёр, спецыяліст па народнай творчасці ці мастацкі кіраўнік? Не, па-ранейшаму клубныя ўстановы падганяюцца пад адзін і той жа штамп, у выніку чаго мы і маем аднатыпныя музеі, бібліятэкі-блізняты, маральна застарэлы набор клубных устаноў.

Іначай кажучы, у культурнае жыццё, і гэта павінна знайсці свой адбітак у «Асновах заканадаўства...», павінен увайсці прынцып гнуткага рэагавання на дынамічна зменлівую сацыялкультурную сітуацыю. Урэшце, прыспеў час упраўленцам адмовіцца і ад акамянелай сістэмы раздзялення клубных устаноў на катэгорыі. Славутая «катэгарыйнасць», ад якой залежаць штаты і зарплата культасветработнікаў, штурхае іх на прыпіскі, абязлічвае творчасць. Больш за 125 інструкцый і рэкамендацый 80-х гадоў толькі па пытаннях працы і зарплаты моцна звязалі рукі культработнікаў.

У кантэксце гэтых меркаванняў лічу неабходным вызначыць у законапраекце асноўныя прынцыпы дзейнасці клубных устаноў і, у прыватнасці, прынцыпы самаарганізацыі культурна-творчага працэсу і самакіравання.

З прыходам рыначнай эканомікі шмат пытанняў узнікае ў фінансава-эканамічнай сферы работы ўстаноў культуры. Змрочныя прагнозы робяцца адносна лёсу нашых клубаў, бібліятэк, музеяў, паркаў, бо іх уласныя даходы, на жаль, невялікія. Таму неабходна заканадаўча сцвердзіць «абавязацельствы» дзяржавы па выдаткаванні бюджэтных сродкаў на прэстыжныя, а не на прыбытковыя віды культурнай дзейнасці. У адваротным выпадку клубныя ўстановы чакае банкруцтва.

Не магу абысці ўвагай і праблемы аховы матэрыяльнай культуры. Як вырашыць іх? Думаецца, закон павінен прадугледжваць мінімальныя падаткі на сродкі, якія накіроўваюцца на адраджэнне культурнай спадчыны. Трэба развіваць спонсарства, г. зн. удзел прадпрыемстваў - прадпрымальнікаў у фінансаванні рэстаўрацыйных работ. Тут важна выпрацаваць механізм узаемаадносін дзяржавы з прыватным прадпрымальніцтвам.

У законе павінны быць прадугледжаны меры, якія б процідзейнічалі засіллю камерцыйнай «масавай» культуры, забяспечвалі б захаванне нацыянальных культурных традыцый. Лічу, з улікам вопыту еўрапейскіх краін, у гэтым дакуменце трэба ўказаць асобныя віды дзейнасці, якія падлягаюць забароне. Трэба падумаць і пра механізм абароны духоўнасці, накшталт таго, які існуе ў цывілізаваных краінах, дзе ў гэтым напрамку дзейнічаюць адпаведныя таварыствы і камітэты на грамадска-дзяржаўных пачатках.

Некалькі слоў пра пенсійныя гарантыі. Лічу, што ў законе трэба вызначыць асноўныя асаблівасці пенсійнага забеспячэння дзеячаў культуры. Нямалаважна вызначыць кола творчых работнікаў, якія валодаюць правам на льготнае пенсійнае забеспячэнне. Бо, на вялікі жаль. сёння ў рэспубліцы няма сацыяльнага статуса народнага ўмельца, майстра народных мастацкіх промыслаў, музыкантаў-педагогаў, якія даюць прыватныя ўрокі, заняты індывідуальнай працоўнай дзейнасцю.

І апошняе. Сумна, што ў праекце закона не знайшлося месца для адлюстравання такой праблемы, як адносіны ідэалогіі і культуры. У апошні час гэтаму пытанню прысвечана нямала публікацый культуролагаў. Улічваючы горкі вопыт мінулай культурнай палітыкі, заклапочанасць гэтая зразумелая, трэба тут паставіць кропкі над «і».

Так, Закон аб культуры ў БССР вельмі надзённы. Важна толькі, каб ён набыў практычнае ўвасабленне, стаў паўнацэнным, дзейсным інструментам і арыенцірам у рабоце па адраджэнні духоўнасці народа.

**А. ГАРБАР.**

## Кнігапіс




Р. БАРАДУЛІН. Кобра ў торбе. Вершы. Мінск, «Юнацтва», 1990.

**Вершы, карацелькі, пацешкі Рыгора Барадуліна заўсёды даспадобы дзецям. Ёсць у іх і досціп, і трапныя параўнанні, і нечаканыя рыфмы. Новая кніжка паэта «Кобра ў торбе» ў гэтым сэнсе не выключэнне. У ёй Р. Барадулін паўстае тым добрым мудрацом, які разумее — дзеці ўсё могуць даравань, але яны ніколі не прымуць няшчырасці.**




ЦЁТКА. Вершы і апавяданні. Укладанне Г. Зінчанкі. Для старэйшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1990.

**Творчасць Цёткі набывае актуальнасць сёння, калі ў жыцці нашага народа пачаўся чарговы этап нацыянальнага Адраджэння. Вершы, апавяданні пісьменніцы — бунтарна-неспакойныя, поклічныя, у іх імкненне да лепшай будучыні. У выданні друкуецца як прадмова артыкул Сцяпана Александровіча «За народнае шчасце».**



І. ЛАСКОЎ. На падводных крылах. Аповесці. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

**Пісьменнік, як вядома, ужо шмат гадоў жыве ў Якуціі, але па-ранейшаму не парывае сувязі з Беларуссю, не забывае роднай мовы. Пацвярджэнне таму і новая кніга прозы І. Ласкова. Першая аповесць «На падводных крылах» аўтарам пазначана, як «тэлевізійны шматсерыйны непрафесійны баявік». Ёсць у гэтым творы нечаканыя сюжэтныя павароты. Галоўнае, што прываблівае ў «баевіку», — вобраз галоўнага героя капітана Качкіна, які працуе на рачной «Ракеце». Ён з кагорты людзей, якія з'яўляюцца, так сказаць, носьбітамі народнага духу.**

**У аповесці «Туман» таксама вострыя сюжэтныя калізіі, але на гэты раз пісьменнік у куды больш «сур'ёзным» плане падыходзіць да вырашэння ўзаемаадносін паміж галоўнымі героямі.**

# З'ЯДНАНЫ З РОДНАЮ ЗЯМЛЁЮ

**10 снежня спаўняецца 60 гадоў Міколу АРОЧКУ. Да віншаванняў калег і сяброў юбіляра далучаецца і «ЛіМ», жадаючы Міколу Мікалаевічу здароўя і новых творчых поспехаў.**



КАЛІ я еду аўтобусам да мамы ў сваю Кракотку на Слонімшчыне, кожны раз праязджаю праз родную вёску Міколы Арочкі Вецявічы — ужо не забрукаваную, як калісь, а заасфальтаваную, усю зялёную, у садах, садочках і агародчыках (нядаўна трапілася ў Літоўскай метрыцы, што ў 1710 г. вёску — 12 валок зямлі — слонімская падчашая Ганна Язерская перадавала сыну свайму Даменіку). Бывае, бачу і Міколу: то з касою вяртаецца з поля ці поплава, то нешта ладзіць ля хлява, то завіхаецца ля дроў, то ў агародчыку, каля дрэў, то ідзе за статкам — нялёгкая, вымушаная жыццёвая неабходнасць вядомага паэта, літаратуразнаўца і крытыка, доктара філалагічных навук, які, ведаю, і сякеру ўмее трымаць у руках, і гэблік, і, вядома ж, пяро.

Чытаючы пасля не такія ўжо і рэдкія ў друку яго вершы і паэмы, артыкулы, рэцэнзіі, часта думаю: вось ужо пра каго можна з поўным правам сказаць — хто-хто, а ён моцна з'яднаны з роднай зямлёю, бо сам робіць на ёй. Але Арочка найперш — паэт, талент якога каранямі звязаны з родным краем, жывіцца сокамі роднай зямлі. Гэта святое пачуццё далучанасці да роднага кута, роднай зямлі расце і паглыбляецца ў яго творчасці ад першых радкоў (друкуецца з 1951 г.), першых яго паэтычных кніжак «Не ўсе лугі пакошаны...» (1958), «Ветраломная паласа» (1962).

Яшчэ са студэнцкіх гадоў само сабою запала ў памяць:

**Іду, як заварожаны,**
**А спеў плыве з-за гаці:**
**«Ці ўсе лугі пакошаны,**
**Ці ўсе сенажаці?..»**

Мне тады здавалася, што гэтая гаць — менавіта за алешнікам, паміж Вялікай Кракоткаю і Вецявічамі (у нас кажуць — Ецявічы, а жыхароў вёскі называюць ецяўцэ або ецяўскія), кудой тады ішла палявая сцяжынка. Цяпер і дарогі пракладзены іншыя, і я ведаю, што ў паэзіі свае законы, свае правілы і вобразы.

З тых першых крокаў у паэзіі М. Арочка задумваўся:

**Родны край**
**...як сыну павер мне;**
**Не хачу між калоссяў**
**быць коласам тым,**
**Што часамі ўзрастае**
**без зерня.**
**(«Пакуль малады»).**

Маладое рамантычна-ўзнёслае стаўленне да свету, жыцця чалавека, спакваля, але няўхільна, змяняецца паглыбленым роздумам над рэчаіснасцю, імкненнем кожны факт, з'яву, падзею, абдумаць, прааналізаваць, а не хапаць напавер. Гэта ўжо выразна відно ў зборніках «Матчына жыта» (1978), «Бяздонне» (1985), «Падземныя замкі» (1986), у філасофска-сімвалічнай паэме-прытчы «Курганне» (1980), драматычнай паэме «Крэва» (1982) і інш.

Лірычны герой паэта актыўна і адкрыта выказвае свае адносіны да гісторыі і цяперэшчыны, выяўляе грамадзянскую пазіцыю, сталасць думкі. Гэта імпануе чытачу, выклікае ў яго суперажыванне, кліча да сумеснага абдумвання тых праблем і пытанняў, якія хвалююць аўтара, да нераўнадушнага абмеркавання якіх ён запрашае свайго сябра-чытача.

Варлен Бечык у прадмове да выбранага М. Арочкі «Колас на ржышчы» (1980) вельмі дакладна пісаў: «Набліжанасць да маральна-псіхалагічных асноў народнага быцця, да спраў і клопатаў людзей, якія вырошчваюць хлеб, фарміруе паэтаў погляд на сучасны свет, дае паэту трывалую меру сапраўдных жыццёвых каштоўнасцей. Гуманістычны пафас дабраты і шчырасці мацнее ў вершах паэта ад гэтага адчування народных, працоўных каранёў, што, дарэчы, вельмі сугучна лепшым творам сучаснай беларускай паэзіі».

У апошняе дзесяцігоддзе адчуванне кроўнай сувязі з радзімаю пачало ўсё часцей набываць у паэзіі Арочкі гістарычную суаднесенасць з мінулым, з дзеямі і славай нашых далёкіх і бліжэйшых прашчураў, не такіх і далёкіх папярэднікаў. І гэта, думаю, заканамерна. Гістарычнае бяспамяцтва абярнулася для нас вялікай трагедыяй бездухоўнасці, нацыянальнага нігілізму, знішчэннем той памяці, без якой народ забывае, хто ён, становіцца сучасным Герастратам.

У паэзіі Міколы Арочкі мне вельмі імпануюць тыя постаці, якія стаялі на ахове духоўнасці нашага народа, яго культуры, мовы, калі бацькаўшчына была ў небяспецы, калі варожыя сілы спрабавалі пазбавіць народ волі, гістарычнай памяці, роднай мовы. Гэта Ф. Скарына (паэма «Судны дзень Скарыны», 1988, верш «Слова да Скарыны», вобраз Скарыны ў паэме «Курганне» — раздзел «У дзядоў» і інш.), П. Багрым, Я. Купала, Я. Колас, Г. Леўчык, В. Таўлай, У. Караткевіч і інш.

З прагнай цікавасцю ўчытваўся я калісьці ў старонкі аповесці М. Арочкі «Хай расце маладая таполя» (1963). Пазнаваў краявіды вакол Арочкавай вёскі, паасобныя рэчыўныя дэталі, назвы, імёны герояў. Успомню і пра такое роднае: чытаючы Арочкавы творы, заўсёды ўзбуджана-радасна лаўлю сябе на думцы — вось гэтак і ў нас гавораць: пе́рвіна, ржышча, дымок гаркàвы, вазок пакóўны, гузыры (у снапах), гу́паць, ухóжка, спрат, поўны пад зàвязку, падая́нка, малача́й, радно́, дзераскáвы шарачок. глыбóзны, рукі крэ́пнуць, напрóвесну, гарэ́ніць (па-руску — горчит), як кот у пячóрцы, вáра (г. зн. варыва), «бабы горшкі» (несці малога на плячах), драбя́сціна і многае іншае. За гэтыя залатыя зярняты роднага слова асабліва ўдзячны земляку. На іх нечаканы агонь памяць маланкава выносіць з глыбінь дарагія, родныя словы, часам ужо прыцьмелыя, засмужаныя часам.

Мікола Арочка — сталы, удумлівы крытык, адзін з самых аўтарытэтных сёння даследчыкаў нашай паэзіі, у прыватнасці, жанру паэмы, сатырычнай беларускай паэзіі, асноўных заканамернасцей беларускага паэтычнага слова ў нашы дні, крытык з шырокімі творчымі інтарэсамі, глыбокай эрудыцыяй, самабытным мысленнем. Добра помню, як быў прыемна ўражаны яго інтэрпрэтацыяй «Сну на кургане» Янкі Купалы — паэма, поўнай складанай умоўнасці і сімволікі: па-свойму арыгінальна, доказна, аргументавана раскрыў ён яе глыбінны сэнс.

Арочка-паэт. Арочка-даследчык усё часцей знаходзіць больш трапнае, дакладнае слова, па-майстэрску шліфуе радок. Заглыбляючыся ў балючыя праблемы сучаснасці, супярэчнасці, складаныя пытанні гісторыі роднага народа, ён будзіць душу чытача, катурхае яго памяць, абвастрае пачуцці, хвалюе сэрца, прымушае думаць. А гэта нямала.

Дай, Божа, каб гэтак як найдаўжэй і надалей!

**Янка САЛАМЕВІЧ.**

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

# МАЯКІ І МІРАЖЫ

**Ля вытокаў беларускага нацыянальнага адраджэння**

**Рыхтуючы да друку артыкул У. Казберука, мы пагаджаліся далёка не з усімі яго высновамі. Тое, што паважаны аўтар называе «міфамі» і «міражамі», усё ж падзяляе вялікая колькасць нацыянальна свядомых людзей.**

**Але мае права на існаванне і такі — скажам, нетрадыцыйны — ракурс бачання, і такі — насуперак агульнаму руху — накірунак думкі. Застаецца нагадаць, што ісціна нараджаецца ў спрэчках...**

НАБЛІЖАЕЦЦА НЕМАЛЫ ЮБІЛЕЙ у гісторыі беларускага народа — 100-годдзе з дня абвяшчэння маніфеста нацыянальнага адраджэння. Іменна такую ролю адыграла прадмова да «Дудкі беларускай» Мацея Бурачка (Францішка Багушэвіча), апублікаваная ў 1891 годзе. Тут упершыню было выразна сказана, хто такія беларусы, чаго яны павінны дамагацца, каб заняць належнае месца ў сям'і і «пабратымцаў» нашых — братніх славянскіх народаў.

Францішак Багушэвіч прадвызначыў тыя кардынальныя праблемы, якія ў вельмі блізкай перспектыве павінна была вырашаць гісторыя — не сама па сабе, не стыхійна, а ў выніку самаахвярнай дзейнасці беларускіх патрыётаў. Гэта былі праблемы захавання мовы — як асновы існавання нацыі, — развіцця нацыянальнай культуры і літаратуры, сувязі і пераемнасці гістарычных эпох. Непазбежна — як гэта і павінна быць у такіх выпадках — узнікала справа геаграфічнага размяшчэння Беларусі. Францішак Багушэвіч першым паказаў яе на карце Еўропы, вызначыўшы ў агульных абрысах яе межы. «Можэ, хто спытае: гдзеж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільна да Мазыра, ад Вітэбска за малым ня да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...»

Праз кароткі час важкае навуковае слова пра беларускі народ, яго мову, фальклор, літаратуру і этнаграфічныя межы сказаў акадэмік Яўхім Карскі ў сваім фундаментальным даследаванні «Беларусы» і іншых працах.

«Дудка беларуская» і «Смык беларускі» з іх прадмовамі адкрылі Беларусь перад тымі жыхарамі нашай зямлі, для якіх нацыянальнае ўсведамленне ўвасаблялася пакуль што яшчэ ў слове «тутэйшыя». Паверым Цётцы, якая так непасрэдна засведчыла, адкуль родам яе нацыянальная свядомасць: «Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то палякам, ці то літоўцам, бо слова тутэйшы мне нексць не смакавала. І так колькі гадоў я хістаўся то на ту, то на другую старану, аж покі не папала ў мае рукі «Дудка» Мацея Бурачка; яна то мне сказала, што хто гаворыць па-тутэйшаму, па-мужыцку, значыцца, ён гаворыць па-беларуску, а хто гаворыць па-беларуску, той беларус. Прачытаўшы тую «Дудку», я сказаў: «Дзякуй табе, Мацей Бурачок! Чэсць і слава тваему слову!» Так пісала Алаіза Пашкевічанка, якая гэты раз узяла сабе псеўданім Гаўрыла з Полацка.

Маніфест Францішка Багушэвіча ўзнік не адразу, не на голым месцы. Яго нараджэнне рыхтавалася ўсім дзевятнаццатым стагоддзем. Праўда, сёння пакуль што яшчэ цяжка з упэўненасцю назваць вытокі гэтага працэсу, яго першапачатковыя імпульсы. Думаецца, што нейкую ролю маглі адыграць тыя дэмакратычныя па сваім характары пераўтварэнні, пачатак якім паклалі так званы Чатырохгадовы сейм (1788—1792) і Канстытуцыя 3 мая 1791 года. Лагічным вынікам іх з'явілася паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Патрыятычна настроенымі дзеячамі Польшчы прадпрымаліся адчайныя намаганні затрымаць скочванне Рэчы Паспалітай у прорву (што з'яўлялася непазбежным вынікам усёй палітыкі феадальных вярхоў) і ажыццявіць у краіне, у тым ліку і на беларускіх землях, прагрэсіўныя палітычныя і сацыяльна-грамадскія пераўтварэнні. Да Касцюшкі пацягнуліся і яго землякі — беларускія касінеры, ад якіх захавалася «Песня беларускіх жаўнераў». Праўда, уласна беларускай нацыянальнай свядомасці ў асяроддзі касінераў, трэба меркаваць, не было і ў зародкавым стане. І тым не менш адным з рэальных герояў паўстання становіўся той мужык, што аберагаў сваю, беларускую мову, звычаі, традыцыі, свой лад жыцця, на аснове якіх у будучым пачала фарміравацца нацыянальная свядомасць.

Падзеі і ідэалогія паўстання самі па сабе раскоўвалі думку чалавека прымушалі яго

# СВЯТЛО ГУМАНІЗМУ І ЛЮБОВІ

ТОЙ, хто яшчэ ў 70-я гады судакрануўся з паэзіяй Н. Мацяш, безумоўна, быў уражаны шырынёй духоўных абсягаў яе творчасці, уменнем паэткі схаваць асабіста перажытае ў мастацкі падтэкст твораў, хоць у паэтаў, як правіла, назіраецца адваротнае.

У Н. Мацяш ужо на самым пачатку творчасці сфарміравалася чыста нацыянальнае светавыяўленне, карані якога ідуць яшчэ з дакастрычніцкай лірыкі і найбольш яскрава відавочны ў купалаўска-багдановічаўскай традыцыі: лірызацыі духоўных перажыванняў паэта на фоне эпічнага, філасофскага спасціжэння ім свету. Адсюль і ў лірычнай гераіні Н. Мацяш з гадамі мацнее імкненне зліцца з болем сусвету — «з людзьмі пра шлях і долю гаварыць», а таму асабістае, хоць і надзвычай кранальнае, як бы саступае на другі план перад агульначалавечым. Глыбока ранімая, трапяткая душа яе лірычнай гераіні не дазваляе сабе самаачышчацца ў рэчышчы эмацыянальнага праяўлення — яна прагне злучыцца з людскімі трывогамі, «трымацца на любові». Ліра-філасофскае асэнсаванне свету моцна адбілася на развіцці вобразна-структурнай паэтыкі твораў, дзе першаснасць надаецца асацыяцыі, метафары, кантрасту, народнай фальклорнай традыцыі, прычым за глыбінёй філасофскіх сентэнцый не губляюцца адкрытая шчырасць, пяшчота паэткі:

**Сонца залівае тратуары**
**У абдымках густалістых ліп.**
**Углядаюся ў людскія твары:**
**Чый жа боль сягоння мне**
**баліць!**
**(«Неспакой»).**

Неспакой за чалавечае быццё, за спусташэнне сэрцаў у творчасці Н. Мацяш становіцца з гадамі больш драматычным — адэкватным самой рэчаіснасці. І ў новым паэтычным зборніку «Шчаслівай долю назаві...», дзе ўжо сама назва змяшчае ў сабе падтэкст, паглыбляюцца матывы суперажывання роду чалавечаму, драматызм духоўнага жыцця лірычнай гераіні. Новыя вершы, як пульсацыя крыві ў збалелым арганізме нашага грамадства, перадаюць усю складанасць барацьбы дабра і зла, кволасць чалавечнасці. Пагэтаму ў новым зборніку ўзмацніліся матывы тугі, безвыходнасці. Лірычная гераіня — жанчына безабаронная перад наступам няўмольнага лёсу, што выдатна перадае трагічнаўражлівая паэма - калыханка «Пространь кахання». Больш напружаным становіцца голас паэткі, калі размова ідзе і аб страце сумлення, міласэрнасці, аб засіллі бяздушнага мяшчанства ў нашым грамадстве. У *лірычна-філасофскую паэзію* ўрываюцца ноткі чыстай публіцыстычнасці — увогуле нехарактэрная рыса яе творчасці (вершы «Набалелае», «Так званаму рэалісту», «Сузямельцы»): «Край і так даведзены да краю...».

*Па-ранейшаму* Н. Мацяш застаецца вернай абраным тэмам: Бацькаўшчыне, гуманізму, каханню. Але ў параўнанні з творамі аналагічнага зместу ранейшых гадоў цяпер больш імпульсіўным, напружаным становіцца паэтычны радок, мацнее лірычнае перажыванне. Н. Мацяш увайшла ў новае беларускае Адраджэнне не толькі выпакутаваным пачуццём горычы за занядбанасць роднай мовы, роднай старонкі, але і непасрэднай культурна-асветніцкай дзейнасцю, за што атрымала ярлык «нацыяналіста» з партыйнага рэквізіту 30-х гадоў, і як вынік — шальмаванне ў брэсцкай абласной газеце.

Тэма Бацькаўшчыны не звужае межаў агульначалавечай накіраванасці яе паэзіі. Беларусь асэнсоўваецца сярод сузямельцаў як адна з трагічных старонак духоўнай занядбанасці цэлага народа. Якім болем, якой безвыходнасцю прасякнуты верш «Лаўцам чорнага ката ў чорным пакоі»! Верш кранае да слёз:

**Не давымотвайце мне сілы,**
**Не падпіхайце да мяжы,**
**Дзе шлях мой па зямельцы**
**мілай**
**Упрэцца ў сумныя крыжы —**
**І стане ў свеце крыжам**
**болей:**
**О як дажыць хацела б я**
**Да дня, калі змагу без болю**
**Аб Беларусі запяяць!..**

У такім эстэтычным рэчышчы ўспрымаецца і верш «Памяці Жэні Янішчыц».

Сапраўдны паэт нярэдка становіцца ахвярай на крутых згібах лёсу Бацькаўшчыны: успомнім Багдановіча, Купалу, Гартнага. Нездарма паглыбляецца гістарызм мастацкага светаўспрымання ў творчасці многіх сучасных паэтаў. І ў Н. Мацяш гэта не даніна модзе, а выхад да першакрыніц нацыянальнага духу. На старонках кнігі ажываюць велічнасць, духоўная моц і прыгажосць нашага народа, увасобленыя ў вобразы яе лепшых сыноў: Казіміра Лышчынскага, Апанаса Філіповіча, Паўлюка Багрыма, паўстанцаў 1863-64 гадоў і *іншых*. Паэтка ствapae не галерэю паэтычных партрэтаў слаўных гістарычных постацяў, а неўміручасць, пераемнасць духу нацыянальнага вызвалення, таму так надзённа гучыць лейтматыў верша «Песня касінераў»:

**Ёсць воля ў лютым прыгоне,**
**Мы маем з чаго выбіраць:**
**З'яднацца сцягамі Пагоні,**
**Ці тупа, як быдла, канаць.**

Паэтка, ведаючы праз нялёгкі лёс старонкі, — «скуль ён, гэты саленаваты прысмак на губах» — не можа не верыць у адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці, чалавечнасці — а значыць, і ў Адраджэнне краю. Пра гэта сведчыць цудоўны верш, якім адкрываецца зборнік, — «Візітная картка». Узнёсла, захапляльна паказаўшы гістарычны шлях любай сэрцу Бярозаўшчыны, Н. Мацяш прыходзіць да высновы:

**А некалі ж ды выспее пара,**
***Калі любое селішча людское,***
**Як наша вёска Горыч,**
**Збудзе горыч**
**І назавецца Светачам**
**нарэшце!**

Шчыры, дзейсны гуманіст, Н. Мацяш у новым зборніку развівае тэму любові, спагады, міласэрнасці ў адносінах паміж людзьмі, што ўдала перадаюць вершы «Сябрам», «Не трэба пытацца», «Усё было: і сон, і парыванне», «Якіх адно вякоў-стагоддзяў не было ў нас...» і іншыя. Шчымліва-пачуццёвае яднанне паэткі з трывогамі свету робіць яе трапяткую душу па-сапраўднаму багатай, здольнай адгуквацца на самыя разнастайныя праявы жыцця, бачыць у малым, нязначным часцінку вялікага існага сусвету. І тады нават самы звычайны матыль (в. «Матылёк») становіцца пад пяром паэта сімвалічным выражэннем гармоніі чалавека і прыроды: «Як жа хараша замовай каляроваю ты няўтульнасць заварожваеш маю!» З задавальненнем бачыш, перачытваючы вершы, як паглыбляецца ў паэткі працэс самапазнання.

Прыгажосць душы Ніны Мацяш вельмі красамоўна выяўляецца ў лірыцы кахання, якая багата прадстаўлена ў яе папярэдніх кнігах і набыла ў новым зборніку свежае напаўненне, як бы другое дыханне. Як і ў ранейшых творах пра каханне. у новых вершах не знік драматызм — ён. наадварот, паглыбіўся, як само пачуццё, але выражэнне гэтага пачуцця набыло своеасаблівую высокасць. Застаецца хіба што зазначыць, што *для паэткі каханне — гэта тая* святасць, якая не толькі жывіць душу, а надае ёй трываласць, пашырае межы гуманізму і нават светапогляду. І недарэмна нават у любоўную лірыку Н. Мацяш уносіць патрыятычнае асвятленне:

**Жыву на Беларусі.**
**Беларуска.**
**Кахаю беларуса.**
**(«Адпомста»).**

У дадзеным выпадку для Н. Мацяш каханне да беларуса, якое за сваімі плячыма мае доўгія гады, — гэта перш за ўсё сведчанне паяднання яе душы, сэрца са светам, адэкватным ёй — светам Белай Русі. Таму і зварот да каханага: «сваю шчаслівай долю назаві» ўспрымаецца ў шырокім сэнсе.

Бацькаўшчына — тое святое, спазнаўшы, спасцігнуўшы, зберагаючы якое творца можа раскрыцца як сапраўдны паэт; гэта той, як бы мовіць, філасофскі камень, тая аснова, на чым трымаюцца ўсе эстэтычныя, філасофскія, маральныя пошукі паэта сябе ў часе, вечнасці.

**Ніна АКСЁНЧЫК.**

г. Мазыр.

---

Ніна Мацяш. Шчаслівай долю назаві... Мінск. «Мастацкая літаратура», 1990.

---

шмат чаго пераасэнсоўваць. Імення на гэтай ідэалогіі выхоўваліся цэлыя пакаленні моладзі, у тым ліку філаматаў і філарэтаў, з асяроддзя якіх выйшаў адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Чачот, адзін з найбліжэйшых сяброў Адама Міцкевіча.

Уся мастацкая творчасць і грамадская дзейнасць Яна Чачота стала этапнай з'явай на шляху да нацыянальнага самапазнання і самаўсведамлення беларускага народа. Ён свядома і мэтанакіравана збіраў скарбы беларускага фальклору, дапаўняў іх уласнымі песнямі, блізкімі да іх па форме і духу. Сваімі публікацыямі ён адкрываў беларускаму мастацкаму народнаму слову шлях у гісторыю і бессмяротнасць, зберагаў духоўныя скарбы народа для будучых пакаленняў.

Зусім невыпадкова высокую ацэнку спадчыне Яна Чачота даў Максім Багдановіч. Ян Чачот — першы пісьменнік, які ў цэнтры ўвагі сваёй творчасці і даследчыцкай дзейнасці паставіў беларускага мужыка з яго мовай і духоўным светам.

На селяніна арыентаваўся і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, але звяртаўся да яго яшчэ як апякун з іншага сацыяльнага і нацыянальнага асяроддзя, што сам ён падкрэсліваў неаднаразова: «Жывучы сярод люду, які размаўляе па-беларуску, прасякнуты яго ладам думак, *марачы аб долі гэтага* братняга племені, анямеўшага ў маленстве ад невуцтва і цемнаты, вырашыў я для заахвочвання яго для асветы ў духу яго звычаяў, паданняў і разумовых здольнасцей пісаць на яго ўласнай гаворцы».

Як бы мы высока ні ацэньвалі *сёння заслугі* В. Дуніна-Марцінкевіча, яго ўклад у развіццё беларускай літаратуры, мы вымушаны адначасова канстатаваць, што пры ўсім сваім дэмакратызме ён быў вельмі і вельмі далёкі ад усведамлення неабвержнай нацыянальнай самабытнасці і адметнасці беларусаў дый рэальных патрэб беларускага прыгоннага селяніна. Выразна адчуў гэта Францішак Багушэвіч, які так і падкрэсліваў: «Здарывалася і мне чытаць і ксёнжачкі хоць не надта старыя друкаваныя навет, якогась пана Марцінкевіча, але ўсе як бы смеючыся з нашага брата пісаны». Пры гэтым аўтар «Дудкі беларускай» не мог ведаць заявы В. Дуніна-Марцінкевіча, адрасаванай Галоўнаму цэнзурнаму камітэту, дзе, у прыватнасці, сцвярджаецца: «...Всеавгустейший монарх наш, обратив особенно отцовское внимание на крестьян, желает как физического, так равно и морального улучшения их быта, а просвещение есть первою степенью к таковому. Я, действуя в духе правительства, впал на мысль для поощрения темного и с натуры ленивого нашего крестьянина к науке описывать его обычаи, обряды, традиционные предания и то в собственном его же диалекте...»

*Можна нагадаць* яшчэ і вядомае дакастрычніцкае выказванне Янкі Купалы: «Пры шчырай сваёй прыхільнасці да народа Марцінкевіч не мог стаць усёй душою на старане дэмасу (...) *Для Марцінкевіча гэты мужык ёсць мужык: можна даць яму і асвету, можна яму пазволіць дайсці да сякога-такога дабрабыту, але няможна допусціць яго да раўні з панамі. Нават у сваіх літарацкіх працах гэта дзяльба панскіх ад мужыцкіх душ перасягае скрозь чырвонай нітачкай, асабліва ў творах сцэнічных».*

Тое, што было заўважана прарокамі беларускага нацыянальнага адраджэння, сёння практычна не згадваецца. Даследчыкі быццам баяцца заплямiць аўтарытэт аднаго з найбуйнейшых і найбольш заслужаных пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Аднак называючы гэтыя факты, мы нікольки не прынізім гонару і заслуг аўтара «Гапона» і «Пінскай шляхты». Мы не забудзем, што В. Дунін-Марцінкевіч жывую мову беларускага народа ператвараў у мову мастацкай творчасці па ўласным пабуджэнні, адчуваючы ў гэтым маральную, духоўную і грамадскую патрэбу. Ствараючы мастацкую літаратуру на беларускай мове, ён гэтым самым ствараў і асновы для заpаджэння і станаўлення беларускай нацыянальнай свядомасці.

НАШЫ ГІСТОРЫКІ, літаратуразнаўцы, пісьменнікі і публіцысты даўно ўжо абвясцілі чыста і выключна беларускім нацыянальным героем Кастуся Каліноўскага, рыцарам sans peur et sans zeproche («без страху і заганы») у першародным значэнні гэтага слова. Гэта ж ён звяртаўся да беларускага мужыка на яго роднай мове, гэта ж ён *клікаў змагацца* за мужыцкую праўду і сам без хістанняў аддаў за яе сваё маладое жыццё. Ён гаварыў са сваімі чытачамі як мужык з мужыкамі, як роўны з роўнымі па паходжанні, па сацыяльным становішчы («Мы мужыкі, браты вашыя, мы вам будзем гаварыць цэлую праўду, только слухайце насі»; «Вы адно мене, такого самаго мужыка як і вы, паслухайце добрэ»).

Няшчаднае выкрыццё несправядлівасці ў той форме, у якой яна існавала пры тагачасным грамадскім ладзе, патрабаванне для мужыка рэальнай свабоды, рэальнага права працаваць на сябе, распараджацца сваім лёсам і набыткам працы сваіх рук, сцвярджэнне той ісціны, што ўрад павінен існаваць для чалавека, а не чалавек для ўрада— гэта толькі *некаторыя* з рэвалюцыйных ідэй і асновапаложных прынцыпаў таго дзяржаўнага ладу, за які ён заклікаў змагацца беларускага селяніна, звяртаючыся да яго на роднай мове.

Усё гэта праўда. Аднак наша бяда ў тым, што на працягу многіх дзесяцігоддзяў гісторыя падавалася і настаўнікам, і школьнікам, і студэнтам, і проста любому чытачу з купюрамі. Калі нейкі дзеяч не падабаўся заканадаўцам у галіне ісціны (гістарычнай, палітычнай, філасофскай і іншай), то яго абвяшчалі нягоднікам па ўсіх параметрах, а яго творы — каб не выклікалі недаверу да афіцыйных версій і ўзаконеных выдумак — запраторвалі ў спецфонды, хавалі ў надзейныя сейфы. А ўжо *калі* хтосьці падаваўся героем — то на ўсе сто працэнтаў.

Мы, бясспрэчна, з захапленнем і гонарам за нязломнага змагара чытаем у «Мужыцкай праўдзе»: «Ад маскаля і паноў не ма чэго спадзеваці ся; бо ёны не вольносьці а глуму і здзерства нашэго хочуць. Но не доўго ёны нас будуць абдзіраці, бо мы пазналі гдзе сіла і праўда і будзем ведаць *як рабіць трэба каб* дастаць землю і свабоду». А хіба ж можна пярэчыць супраць разважанняў Каліноўскага аб свабодзе? Нагадаю іх: «Мы сегодня ўсе ўжэ ведаем, што чэлавек вольны гэто калі мае кусок сваей землі за катору ані чыншу і аброку не плаціць, ані паньшчыны не служыць,— калі плаціць малые падаткі і то не на царскіе стайні псярні і курвы, а на патрэбу цэлаго народу, (...) *калі робіць усенко што* спадабае і што не крыўдзіць блізьняга і хвалы боской...».

Хіба ж усё гэта няпраўда? Але чытаем мы, адкуль узялася паншчына і як жылося мужыку ў часы магнацка-шляхецкай Рэчы Паспалітай, — і нам становіцца не па сабе. Вось што паведамляецца ў другім нумары «Мужыцкай праўды»:

**«Быў то калісьці народ наш *вольны і багаты*. (...) Но у суседстве з намі жыў Немец і Маскаль. Аднаму і другому багацтво нашое калоло ў очы — каб іх так колька схапіла, да і хацелі нас загнаць з нашэй бацькоўшчыны. Трэба было бараніці ся, так Кароль кажэ**

(Працяг на стар. 12).

# Год Скарыны, пяць вякоў Скарыны, вечнасць Скарыны




**На зыходзе 1990 год, аб'яўлены ЮНЕСКА годам Францішка Скарыны. Прайшоў ён сапраўды пад знакам гэтага найвыдатнейшага чалавека ў сусветнай культуры. Вядома ж, асноўныя мерапрыемствы прыпалі на Беларусь, дзе першадрукар нарадзіўся і рос, адкуль пайшоў у вялікі свет, каб здзівіць яго сваім працалюбствам, жыццядайнасцю свайго таленту. Паўсюдна адбыліся літаратурныя вечары, прайшлі кніжныя выстаўкі. Гасцей з розных кутkoў Савецкага Саюза і з многіх замежных краін вітаў старадаўні Полацак. Дзесяткі кніг Скарынавых, пра Скарыну, пра яго паплечнікаў і прадаўжальнікаў — выйшлі ў выдавецтвах рэспублікі.**

**Завяршальныя юбілейныя мерапрыемствы прайшлі за межамі рэспублікі: у штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы, старадаўняй Вільні, у Калоннай зале Дома Саюзаў у Маскве...**

**Сёння пра іх наш расказ.**

## МАСКВА

Усмешлівае скарынаўскае сонейка, якое ўпрыгожыла эмблему юбілею вялікага асветніка і гуманіста, узнялося і над сцэнай славутай Калоннай залы Дома Саюзаў. У Маскве, дзе, мяркуючы па дакументах, Ф. Скарына таксама бываў і дзе яго справа знайшла дастойны працяг у выданнях Івана Фёдарава, 26 лістапада адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 500-годдзю слаўнага сына зямлі беларускай.

Вечар адкрыў першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР У. Карпаў.

Людзі перастаюць лічыць галоўнымі дзеючымі асобамі гісторыі заваёўнікаў і правіцеляў, сказаў ён. Усеагульная жыццёвая патрэбнасць не разбурэння, а стварэння прымушае нас звяртацца да сапраўдных набыткаў чалавечай цывілізацыі, носьбітаў станоўчых каштоўнасцей. Іменна так успрымаем мы сёння вялікага сына беларускага народа, грамадзяніна Еўропы і свету Ф. Скарыну.

Слова пра Францішка Скарыну сказаў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. Шушкевіч.

Дзейнасць Скарыны ў розных краінах, падкрэсліў ён, даволі цікавае сведчанне ўзаемнай адкрытасці тагачасных еўрапейскіх дзяржаў, свабоднага абмену паміж імі духоўнымі каштоўнасцямі, што павучальна і для цяперашніх узаемаадносін паміж Захадам і Усходам, актуальна пры будаўніцтве «новага еўрапейскага дома». Яго патрыятызм, яго любоў да роднага Полацка былі страснымі і паслядоўнымі. Патрыятызм Скарыны не меў нічога агульнага з нацыянальнай абмежаванасцю. Вялікі палачанін зусім не адхіляў ідэю ўсходнеславянскага або, шырэй, славянскага і еўрапейскага адзінства. Будучы яркім прадстаўніком еўрапейскай рэнесанснай думкі, Скарына адным з першых сярод усходніх славян загаварыў аб роўнасці ўсіх народаў, самакаштоўнасці іх культур і духоўных традыцый.

З вялікай павагай і любоўю гаварыў пра Скарыну — асветніка-гуманіста, перакладчыка «Бібліі», першадрукара і першага ўсходнеславянскага паэта, аўтара ўсходнеславянскага календара доктар гістарычных навук, прафесар Я. Неміроўскі (Масква).

Прыняў удзел у юбілейным вечары, прысвечаным Скарыне, прафесар Інстытута славяназнаўства польскай Акадэміі навук, доктар гуманітарных навук Б. Бялаказовіч. У сваім выступленні ён адзначыў, што кнігі Францішка Скарыны і сама яго асоба занялі першараднае месца ў гісторыі беларускай, славянскай і еўрапейскай культуры.

Выконваючы абавязкі дырэктара Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна А. Волік перадаў у дар беларускаму народу для мемарыяльнага музея Сімяона Полацкага, які ствараецца ў Полацку, старадрукаваныя кнігі, выдадзеныя ў Расіі, Беларусі і на Украіне (дванаццаць арыгіналаў, што маюць вялікую каштоўнасць).

На вечары выступілі таксама вядомыя беларускія пісьменнікі і даследчыкі бессмяротнай спадчыны Ф. Скарыны А. Мальдзіс і А. Лойка.

Урачыстасці завяршыліся канцэртам майстроў мастацтваў Беларусі, у якім прынялі ўдзел Акадэмічны народны хор БССР імя Г. Цітовіча, камерны хор БССР, ансамблі «Чараўніцы», «Харошкі», «Лялькі», «Свята», «Сябры».

На вечары прысутнічалі член Прэзідэнцкага савета СССР, міністр культуры СССР М. Губенка, член Палітбюро, сакратар ЦК КПСС А. Дзасохаў, член Палітбюро ЦК КПСС, галоўны рэдактар газеты «Праўда» І. Фралоў, дэлегацыя Беларускай ССР, замежныя госці.

## ВІЛЬНЯ

Старажытная Вільня ушаноўвала ў семнаццаты дзень лістапада памяць Францішка Скарыны. Урачыстасці, наладжаныя на літоўскай зямлі ў гонар 500-гадавога юбілею слаўнага палачаніна, пачаліся літургіяй у Віленскім кафедральным саборы. Бадай, упершыню ў гэтым Храме служба вялася на матчынай мове беларусаў. Высокія словы біскупа Тадэвуша Кандрусевіча і ксяндза Уладзіслава Чарняўскага— святароў з Беларусі, запрошаных спраўляць літургію, былі звернуты да сумлення кожнага, хто прысутнічаў на ўрачыстай службе. Пад скляпеннямі сабора лунаў дух еднасці беларусаў, якія прыехалі ў Вільню з Мінска і Рыгі, Таліна і Віцебска, Гродна і Ленінграда, луналі бел-чырвона-белыя сцягі...

Калона гасцей, запрошаных на скарынаўскія святы, разам са сваімі землякамі-беларусамі з Вільні пасля літургіі рушыла да дома былога віленскага мецэната Якуба Бабіча. У гэтым двухпавярховым доме амаль пяць стагоддзяў назад Францішак Скарына, вярнуўшыся на радзіму, абсталяваў друкарню, адкуль, у прыватнасці, выйшла ягоная «Малая падарожная кніжка». У дзень урачыстасцей на гэтым доме замест старой мемарыяльнай дошкі ў гонар беларускага гуманіста, асветніка, першадрукара была прымацавана новая. На мармуры — барэльеф Скарыны і тэкст на літоўскай і беларускай мовах. У час адкрыцця памятнай дошкі слова бралі міністр культуры Літвы Дарыяс Куоліс, старшыня дэпартамента рэспублікі па справах нацыянальных меншасцей Галіна Кабецкайтэ, спадар Лявон Луцкевіч, першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Станіслаў Шушкевіч, доктар гістарычных навук Міхась Ткачоў, ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі. Прадстаўнікі грамадскасці Літвы і Беларусі ўсклалі кветкі да мемарыяльнай дошкі, запалілі свечку...

Завяршылася свята ў Палацы мастакоў, дзе была наладжана выстаўка твораў беларускіх мастакоў і студэнтаў БДТМІ. У Белай зале гучала старажытная музыка ў выкананні ансамбля «Банкета музыкале» з Вільнюса, і зноў—словы пашаны ў адрас Скарыны і яго радзімы — Беларусі. На гэты раз прысутных віталі паэт і перакладчык беларускай літаратуры Э. Матузявічус, віцэ-прэм'ер Літвы Р. Озалас. З расказам аб жыцці Скарыны выступіў Адам Мальдзіс.

## ПАРЫЖ

Цырымонія, прысвечаная 500-годдзю з дня нараджэння беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара, пісьменніка і гуманіста эпохі Адраджэння Францішка Скарыны — так афіцыйна называліся скарынаўскія мерапрыемствы, якія прайшлі ў Францыі па лініі ЮНЕСКА. Ва ўрачыстасцях прыняла ўдзел афіцыйная дэлегацыя Беларускай ССР на чале з намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР, старшынёй рэспубліканскага аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны Н. Мазай. У склад дэлегацыі ўвайшлі народны дэпутат БССР, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па культуры, народнай адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Н. Гілевіч, міністр культуры БССР Я. Вайтовіч, старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па друку А. Бутэвіч, член-карэспандэнт АН БССР, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, аўтар рамана-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае» А. Лойка...

Дэлегацыя была прынята Генеральным дырэктарам ЮНЕСКА Федэрыка Маёрам.

14 лістапада ў Штаб-кватэры ЮНЕСКА адбыўся ўрачысты юбілейны вечар. З прамовамі на ім выступілі М. Маёр і Н. Мазай. Яны гаварылі аб вялікай ролі Ф. Скарыны ў духоўным развіцці чалавецтва, яго ўкладзе ў развіццё кнігадрукавання і сусветнай культуры, аб тым, што на сучасным этапе ўзрастае значэнне кантактаў і сувязяў паміж народамі.

Н. Мазай перадала ў падарунак ЮНЕСКА ад Беларускай ССР карціну народнага мастака СССР М. Савіцкага «Я—Скарына», спецыяльна створаную для юбілею тытана эпохі Адраджэння.

Чароўнасць мелодый Беларусі перадаў прысутным фальклорны калектыў «Купалінка». Кірмаш рамёстваў таксама стаў для парыжан магчымасцю адчуць, чым жывуць сёння беларусы, які багаты іх духоўны свет. Народныя майстры Л. Главацкая, А. Грэсь, І. Лізура і іншыя тут жа, так сказаць, на вачах дзесяткаў людзей рабілі свае цуды з дрэва і саломкі.

Працавалі кніжныя экспазіцыі, выстаўкі графічных работ і фотаздымкаў, якія расказалі пра родны Скарынаў Полацк і гарады, дзе яму давялося працаваць, пазнаёмілі з яго жыццём і кнігадрукарскай, асветніцкай дзейнасцю.

Беларуская дэлегацыя сустрэлася ў горадзе Ліле з актывістамі мясцовага аддзялення таварыства «Францыя — СССР». Тут таксама адбыўся канцэрт ансамбля «Купалінка».

Члены дэлегацыі Н. Гілевіч і А. Лойка наведалі Інстытут славянскіх даследаванняў. Не адну гадзіну доўжылася сустрэча, пад час якой госці знаёмілі прысутных з культурным жыццём беларускага народа, працэсамі адраджэння ў рэспубліцы. Узнікла гаворка пра сувязі навукоўцаў і студэнтаў славістычнага факультэта Сарбоны з калегамі з Беларусі. У прыватнасці, пра гэта гаварыў прэзідэнт Інстытута нацыянальных моў і арыентальнай цывілізацыі Юго Жан дэ Дзіяну дэ ля Пэроцін. Ён зазначыў, што Сарбона падтрымлівае кантакты з універсітэтамі Літвы, Латвіі, Эстоніі, што трэба ёй парадніцца і з Беларускім дзяржаўным універсітэтам. Госці з прыемнасцю даведаліся, што студэнтка славістычнага факультэта Сарбоны Віржынія Шыманец працуе над даследаваннем «Беларускі тэатр XVII—XVIII стагоддзяў».

---

Выдатны гуманіст і асветнік, мысліцель і вучоны - энцыклапедыст, усходнеславянскі першадрукар, самабытны мастак-графік, таленавіты пісьменнік, паэт і перакладчык, высакародны грамадзянін і патрыёт—усё гэта цалкам справядлівыя характарыстыкі, якімі пашаноўваецца сярод людзей дасведчаных наш зямляк, беларус са слаўнага горада Полацка Францыск, або Францішак, Скарына.

500-я ўгодкі яго нараджэння, якія мы разам з многімі добрымі людзьмі адзначаем, выпалі на час вельмі незвычайны, на час, які у пэўных вымярэннях супадае або адчувальна перагукваецца з ягоным часам. Яго, скарынаўская, эпоха ў гісторыі чалавечай цывілізацыі называецца эпохай Адраджэння. Сёння гэтае слова зноў стала адным з самых назыўных — прынамсі, у дачыненні да многіх народаў свету, у тым ліку і да нас, беларусаў. Што ж гэта быў за час, які належаў яму, Скарыне, час, за межы якога ён ступіў у вечнасць, час, які на землях усходняга славянства ўвасобіўся ў ім, у яго справах і дзеях найбольш прыгожа, найбольш поўна і ярка?

Тры адметныя рысы характарызуюць тую непаўторную эпоху, што прыйшла на змену застойных, як бы мы сказалі сёння, сярэдніх вякоў, — эпоху Адраджэння. Першае — гэта свабоднае пачуццё чалавечнасці, узвышэнне і самасцвярджэнне асобы, яе права на зямныя радасці жыцця; другое — гэта вызваленне чалавечага розуму ад усялякіх догмаў, бунтоўны і неадольны дух вальнадумства; трэцяе — гэта арыентацыя і апора на антычнасць, на старажытныя аўтарытэты. Дабавім, што гэтыя памечаныя гуманізмам духоўныя працэсы суправаджаліся ростам этнічнай і нацыянальнай самасвядомасці, крышталізацыяй і станаўленнем нацыянальных культур, увагай да жывое мовы народа. На дарозе Адраджэння, а значыць — развіцця навукі, асветы, літаратуры і мастацтва стаяла косная сіла сярэднявечча, усталяваныя за тысячу гадоў традыцыі, мараль і светапогляд, і каб гэтыя перашкоды расхістаць і пераадолець — патрэбна была сіла волатаў, тытанаў духу. Эпоха, як мы ведаем, задаволіла гэту патрэбу. Нагадаем, што сучаснікамі Скарыны былі такія геніяльныя вучоныя, мастакі, пісьменнікі, як Капернік, Мікеланджэла, Леанарда да Вінчы, Рафаэль, Батычэлі, Дзюрэр, Рабле і іншыя, у сузор'і якіх дастойна свяціцца і воблік нацыянальнага генія Беларусі.

Нагадаем таксама, што малады палачанін, да таго як пайсці па навуку ў славутыя еўрапейскія універсітэты, атрымаў належную адукацыю дома, на Бацькаўшчыне, дзе яшчэ ад часоў Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага пашыралася і была ў вялікай пашане рукапісная кніга і наогул пісьменнасць. Што ён нарадзіўся і вырас не ў адсталым, апавітым цямнотай, духоўна паралізаваным краі. На яго радзіме ў той час ужо славіліся актыўным гаспадарчым, грамадска-палітычным і культурным жыццём такія буйныя гарады, як Полацак, Віцьбеск, Берасце, Гародня, Навагарадак, Менск, Слуцак, а таксама Орша, Магілёў, Тураў, Пінск і іншыя. Тон у жыцці ўсё больш пачыналі задаваць новыя сацыяльна-грамадскія сілы — шляхта і заможныя гараджане, купцы і рамеснікі. Час Скарыны — гэта час інтэнсіўнага фарміравання беларускай нацыянальнай мовы, росквіту рукапіснага мастацтва і ўзнікнення прыватных бібліятэк, час шырокага бытавання апакрыфічнай і перакладной літаратуры, найбольш актыўнага ства-

# Вялікі сын Беларусі

Ніл ГІЛЕВІЧ

рэння беларускіх летапісаў — такіх, як знакамітая «Хроніка Быхаўца», час першага Статута Вялікага княства Літоўскага, як тады называлася наша магутная дзяржава. Час Скарыны — гэта час масавага паяўлення на Беларусі царкоўных і свецкіх хораў, капэл і аркестраў, час выдатных дасягненняў у мастацтве (іканаграфія, дрэварыт, манументальны жывапіс) і асабліва — у галіне нацыянальнага дойлідства (цэрквы-крэпасці ў Сынковічах, у Супраслі, у Заслаўі, у Малым Мажэйкаве, замак у Міры і многае іншае). Час Скарыны — гэта час, калі маладыя беларусы атрымлівалі вышэйшую адукацыю ва універсітэтах Кракава, Прагі, Падуі, Балоньі, Базеля, Ляйпцыга, Кёнігсберга, калі ў дзяржаве высока шанаваліся пачуцці патрыятызму і грамадзянства, калі найвышэйшым заканадаўчым і кантрольным органам быў вольны сейм, які ўнаследаваў традыцыі даўніх вечавых сходаў, калі ў краі панавала канфесійная талерантнасць і яшчэ было далёка да адкрытых агрэсіўных выпадаў супроць іншаверцаў.

Галоўны патрыятычны подзвіг Францішка Скарыны ў тым, што ён першы даў свайму народу друкаваную кнігу і гэтым самым зрабіў невымерны ўклад у развіццё асветы, навукі і культуры на Бацькаўшчыне. Ужо само разуменне ролі кнігадрукавання ў развіцці чалавечай цывілізацыі гаворыць пра многае. Наўрад ці можна сумнявацца, што Скарына яшчэ ў Кракаве — адным з тагачасных цэнтраў кнігадрукавання — загарэўся ідэяй паставіць геніяльнае вынаходніцтва Гутэнберга на службу свайму народу, і гэта ідэя стала яго найпершым маральным абавязкам перад Бацькаўшчынай, яго галоўным і неадступным клопатам, яго палымянай і светазарнай мэтай, дзеля ажыццяўлення якой ён безразважна ахвяраваў спакойным і забяспечаным жыццём чалавека з двума вучонымі тытуламі доктара навук, не збаяўся беднасці і іншых неймаверных цяжкасцей і нягод, на якія асуджаў сябе, ступаючы на шлях асветніцкай і навуковай дзейнасці. Яго самадданасць і самаахвярнасць у гэтым сэнсе — рэдкі прыклад сыноўскага клопату пра свой народ і яго будучыню.

Але мы выказваем пачуццё нашай усенароднай удзячнасці гэтаму найвялікшаму з сыноў Беларусі і не толькі як першадрукару, але і як выдатнаму мысліцелю, вучонаму і пісьменніку, чый творчы плён раўназначны яго пачынальніцкаму подзвігу. Скарына ўзяў на сябе задачу даць суайчыннікам на Радзіме не проста кнігу, а найвялікшую кнігу чалавецтва — Біблію. Вядома, светапогляд Скарыны, як і кожнага з тытанаў Рэнесансу, не быў цалкам свецкі. Але не толькі яго шчырае шанаванне хрысціянскай веры забяспечыла гэты выбар, а і ўзровень яго адукацыі і культуры, праніклівасць, маштабнасць і глыбіня яго розуму. У Бібліі Скарына бачыў перш за ўсё крыніцу самых разнастайных ведаў, неабходных народу, які хоча сацыяльнага і культурнага прагрэсу, неабходных чалавеку, які турбуецца пра сваё духоўнае развіццё і маральнае ўдасканаленне. Зведзеныя ў адно цэлае дзесяткі прадмоў і пасляслоўяў Скарыны да перакладзеных і выдадзеных ім кніг Бібліі — гэта не ардынарны, звычайны каментарый да зместу Святога пісання; гэта сапраўдны навуковы трактат вучонага і мысліцеля, у якім на ўзроўні ідэй Адраджэння выяўлены яго смелы, наватарскі погляд на ўсё — на рэлігію, на асвету і навуку, на мову, на мастацтва, на бытавую і грамадскую мараль, на прававую сістэму і на многае іншае. Дасведчаны ў розных галінах навукі — у медыцыне і батаніцы, у мастацтвазнаўстве, у геаграфіі і астраноміі, у геаметрыі і арыфметыцы, у гісторыі і філасофіі, у правазнаўстве і логіцы, у граматыцы і асновах красамоўства — Скарына бачыць іх пачаткі ў паасобных кнігах Бібліі, якія адпаведна і рэкамендуе чытачам. Але галоўны яго клопат, пра што ён гаворыць зноў і зноў, амаль не ў кожнай прадмове,—гэта праўда і справядлівасць, дабрыня і міласэрнасць, гэта клопат пра тое, каб людзі «научившися мудрости добре жили на свете». Ужо ў прадмове да першай надрукаванай ім у Празе ў 1517 годзе кнігі «Псалтыр» Скарына піша: «Там ест справедливость, там есть чистота, душевная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там мудрость и разум досконалый. Там ест милость и дрyголюбство без льсти, и вси иншии добрые нравы якобы со источника оттоле походять.

И видечи таковые пожитки в так малой книзе, я, Францишек, Скоринин сын с Полоцька, в лекарских науках доктор, повелел есми Псалтырю тиснути рускими словами и словенским языком напред ко чти и к похвале богу (...), а потом к пожитку посполитого доброго, наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил».

Зноў і зноў Скарына паўтарае, што пакладзеная ім богатхнёная праца прызначана «людем посполитым к пожитку», «к доброму научению», дзеля «размножения добрых обычаев», дзеля мацавання згоды паміж людзьмі і ў краіне, паколькі «незгода и наибольшие царства разрушаеть». Міласэрнасць і праўда не пакінуць людзей, калі яны спасцігнуць навуку і мудрасць, што схавана ў біблейскіх легендах і прытчах, «якобы моц в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у вореху», калі ім перадасца і ўсталюецца ў іх душах «дух разумности», для якога аўтар знаходзіць цэлую нізку дакладных і яркіх эпітэтаў: «В ней воистинну ест дух разумности святый, единый, различный, смысленый, скромный, вымовный, движющийся, непоскверненый, истинный, сладкий, чистый, сталый, добротливый и всякую иную имеющий в собе добрую цноту».

Дух разумнасці!.. Як ён усім нам сёння патрэбен! І нам у Беларусі, і ўсёй нашай краіне, і ўсёй нашай заселенай людзьмі планеце! Як па-сучаснаму, як актуальна гучаць галоўныя, вызначальныя пастулаты маральнага вучэння Скарыны, яго філасофіі, яго патрабаванні духоўнай свабоды для чалавека, яго ўстаноўка на высокую этычную культуру, на сумяшчэнне грамадскіх і асабістых інтарэсаў людзей — каб усім добра было!

Дарэчы, вельмі сімвалічна, што і да гэтага часу не высветлена, якога ж веравызнання быў Скарына — праваслаўнага? — каталіцкага? — пратэстанцкага? Ці пераходзіў з аднае веры ў другую? У гэтым таксама хочацца бачыць яго своеасаблівы мудры запавет нам, нашчадкам: Людзі, хай веравызнанне вас не раздзяляе, не самае важнае — да якой канфесіі належыць, галоўнае — служыць дабру і міласэрнасці, праўдзе і справядлівасці, міру і згодзе, і — быць патрыётамі той зямлі, на якой вы нарадзіліся і выраслі!.. «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возьдуху, ведають гнезда своя: рибы, плавающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

І так, до того месца, дзе ты нарадзіўся, і, як мы помнім, да тае мовы, з якое міласцівы Бог цябе ў свет пусціў... Скарына ведаў добры дзесятак моў, у тым ліку лацінскую, старажытнагрэчаскую і старажытнаяўрэйскую, цаніў і шанаваў мовы іншых народаў, але найперш яго любоўю была мова роднага краю, да якое ён і стараўся наблізіць мову сваіх перакладаў. Калі такую складаную і зместам, і жанрава, і стылёва кнігу, як Біблія, ён узяўся агучыць жывою мовай сваіх бацькоў — дык якую ж высокую думку пра гэту мову было трэба мець, якія цудоўныя яе магчымасці і ўласцівасці бачыць!

У мове Скарыны, кажучы словамі Марселя Пруста, — «формы старажытнай душы» нашага народа. Па старонках ягоных выданняў «праходзіш» — як па старажытных вуліцах і вулачках Полацка, Гародні, Вільні (хацеў бы, ды не магу сказаць — Менску...). Калі б да нас не дайшла мова кніг Скарыны і яго паслядоўнікаў — мы не адчулі б душой і сэрцам, якія глыбокія нашы духоўныя карані, як далёка мы пачаліся і — насуперак усім трагічным ударам лёсу — засталіся вернымі сабе.

Такія постаці беларускага Адраджэння, як Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Леў Сапега, Андрэй Волан і іншыя, увесь стан тагачаснай беларускай культуры, літаратуры, дойлідства, пераканаўча засведчылі, што мы, беларусы, на магістральны шлях гістарычнага прагрэсу выйсці не спазніліся, што ад тагачаснай Еўропы мы не адставалі, а ў сім-тым нават ішлі паперадзе, — напрыклад, у верацярпімасці, у дасканаласці і гуманнасці дзяржаўнага заканадаўства. Трагічным паваротам у лёсе беларускай культуры быў паступовы адыход ад гуманістычных прынцыпаў Адраджэння. Трагедыя пачалася тады, калі знакамітыя магнацкія роды, прадстаўнікі буйное шляхты, багатага купецтва і нават царквы сталі на шлях здрады нацыянальным інтарэсам, калі ўслед за імі навукоўцы, асветнікі, кніжнікі адступіліся ад наказаў Скарыны і пачалі друкаваць кнігі на польскай мове, што катастрафічна падарвала і ўрэшце амаль зусім перапыніла скарынаўскую традыцыю кірылічнага друкавання на беларускай. Колькі было ў 17—18 стст. на нашай зямлі друкарань, у тым ліку вельмі вядомых, якія не выдалі ніводнай кнігі па-беларуску!..

Гаворачы пра гэту трагічную акалічнасць у гісторыі нашага нацыянальнага станаўлення, мусім, аднак, падкрэсліць, што калі б не творчы подзвіг Скарыны, калі б не магутны размах і маштаб яго кнігавыдавецкай і асветніцкай дзейнасці, — трагедыя магла б быць непараўнана больш страшнай, яна магла б аказацца для нас непапраўнай. Калі б не той духоўны, нацыянальна-культурны грунт, які так умацавалі Скарына і яго паслядоўнікі, супраціўленне апантанаму напору чужаземнай культуры і мовы на Беларусі было б значна слабейшае, асіміляцыя нашых чыстакрэўных прашчураў ішла б тэмпамі намнога большымі, — і хто ведае, які наогул быў бы лёс нашага народа, ці дыхалі б мы сёння найздаравейшым, найчысцейшым і найсаладзейшым паветрам роднае мовы? Ці абудзілася б калі-небудзь у забітых душах ідэя нацыянальнага адраджэння, і ці пачаўся б калі-небудзь беларускі нацыянальна-вызваленчы рух?..

Агульнавядома, якая велізарная роля Скарыны ў развіцці беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Несумненна, што яго друкарска-выдавецкую школу прайшлі і Сымон Будны, і Васіль Цяпінскі, і заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне Іван Фёдараў, і яго паплечнік і сябар Пётра Мсціславец, і многія-многія іншыя. Праўда, не заўсёды і не ўсім братам нашым хапала мужнасці пра гэта сказаць, а ў нас саміх — не заўсёды хапала пачуцця годнасці пастаяць за свае нацыянальныя аўтарытэты. Горка, але гэта так. А між тым цану нашаму геніяльнаму земляку ўжо пры яго жыцці добра ведалі некаторыя адукаваныя замежнікі. Так, брандэнбургскі герцаг Альбрэхт у рэкамендацыйнай грамаце, выдадзенай Скарыну ў 1530 годзе, характарызаваў яго як «выдатнага мужа непараўнанага розуму і мастацкага дару, светлага лекарскага таленту і слаўнага вопыту».

Вывучэнне творчай спадчыны Скарыны пачалося звыш двухсот гадоў назад — сіламі навукоўцаў розных, перш за ўсё славянскіх, краін. Шмат з таго часу было зроблена для стварэння навуковай Скарыніяны. Але шмат было на гэтым шляху і цяжкіх, нават небяспечных перашкод. Асабліва — у нас, у Беларусі, у гады пагромаў гэтак званага «беларускага буржуазнага нацыяналізму», духоўнай апорай якога пагромшчыкі лічылі, сярод іншага, і плён працы Скарыны. Так, вядомы партыйны дзеяч Вільгельм Кнорын, той самы, які ў 1918 годзе публічна, у афіцыйным друку адмаўляў існаванне асобнай беларускай нацыі і асобнай беларускай мовы, у 1928 годзе пісаў: «Права беларускіх працоўных на беларускую мову выцякае зусім не з таго, ці жыў і працаваў на беларускай мове сярэдневяковы манах Скарына, але ад рэвалюцыйнага раўнапраўя ўсіх народаў». У наступныя гады абразлівыя мянушкі «сярэдневяковы манах», «беларускі езуіт» і іншыя, раз-пораз вылятаючы з-пад пяра партыйных, вучоных і літаратурных аўтарытэтаў, фактычна спынілі развіццё беларускай Скарыніяны. Для чаго гэта рабілася? А для таго, каб адабраць у народа гонар, каб яму не было чым ганарыцца. Так лепш — для тых, хто хацеў бы выхоўваць людзей у рабскай пакорлівасці. Згадваецца гэта не для таго, каб лішні раз развярэдзіць балючыя раны, а для таго, каб засцерагчы: той, кнорынскі, узровень разумення гісторыі цывілізацыі і культуры да канца яшчэ не пераадолены, той прымітыўны, зручны для абывацеляў і жандараў, погляд на гісторыю беларускага народа, яго мову і культуру трымаецца сям-там яшчэ даволі моцна.

На працягу першых пасляваенных дзесяцігоддзяў імя Скарыны, агулам кажучы, вымаўлялася ў нас з пашанай. Больш таго: часта і гучна заяўлялася аб тым, што наша грамадства — дастойны спадкаемца і прадаўжальнік яго задум і здзяйсненняў.

Усе гэтыя акалічнасці і спрычыніліся таму, што адкрыццё Скарыны для вялікага свету бязбожна зацягнулася, што па-за межамі Бацькаўшчыны ён і дагэтуль належным чынам не вядомы.

Падобна, аднак, на тое, што наступіла пара рашучых перамен. У апошнія гады ўклад у навуковую і літаратурна-мастацкую Скарыніяну адбываўся з вельмі прыкметным і адчувальным нарастаннем. Бачыць і ўсведамляць гэта ўцешна, бо гэта — канкрэтныя, рэальныя дзеі, сведчанне таго, што мы нарэшце пачынаем разумець павучанне апостала Паўла, якое Скарына зрабіў сваім крэда: «Слова без справы мёртвае». Сёння мы на ўвесь голас гаворым пра новы этап нашага нацыянальнага адраджэння — адраджэння беларускай мовы, культуры, гісторыі школы і інш. Усё гэта мы можам здзейсніць толькі тады, калі ў цэнтр нашай увагі і клопатаў мы паставім тое, што нам першы даў Скарына — кнігу. Беларускую кнігу. Калі мы зробім сапраўды нацыянальным кнігадрукаванне на Беларусі. Гэтаксама—калі мы зробім сапраўды беларускай нашу школу. Гэтаксама — наш тэатр і культасвету.

У нетрах нашага грамадства выспяваюць новыя настроі, якія прадвяшчаюць рашучы паварот у гістарычным лёсе беларускага народа. У ліпені Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. 1-га верасня ўступіў у дзеянне Закон аб мовах, згодна якому беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай. Нядаўна Савет Міністраў БССР прыняў рашэнне аб стварэнні ў Мінску Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны, які, хочацца верыць, стане буйным асяродкам навуковай, асветніцкай і культурнай работы. Думаецца, што зусім не за гарамі час, калі ў нашым стольным горадзе, на рагу вуліцы Акадэмічнай і праспекта Скарыны — цэнтральнага праспекта сталіцы, будзе стаяць прыгожы і велічны помнік яму — можа быць, самы прыгожы з усіх пастаўленых калі-небудзь на беларускай зямлі.

Багаслаўлёнае імя Скарыны сёння з тымі, хто клапоціцца пра адраджэнне душы чалавечай, хто дбае пра вялікую будучыню народа.

Тая вера, што калісьці вяла яго пакутніцкім шляхам да высакароднай мэты і асвятляла яму гэту дарогу — з намі!

Тая любоў да роднага краю, што натхняла яго, і акрыляла, і падымала над крыўдамі і нягодамі — з намі!

Тая прага тварыць дабро «людзям паспалітым», якая жывіла яго сілы, прыдавала яму мужнасці, стойкасці і цярпення, — з намі!

Будзем жа дастойнымі ў сваіх словах і справах яго памяці, яго спадчыны, яго запаветаў!

## *На музычнай сцэне*

# МО НЕ ЗАГІНЕМ?

**Быў панядзелак, выхадны дзень у тэатры. Але людзі дасведчаныя ўпэўнена штурмавалі Траецкую гару, уваходзілі ў асветлены вестыбюль. К сямі гадзінам у фае на другім паверсе ўжо не хапала крэслаў, банкетак ды канап, і частка публікі вымушана была размясціцца на галерэі трэцяга яруса. Клуб сяброў оперы распачынаў новы сезон...**

ЛЯГЧЭЙ ЗА ЎСЁ дадаць зараз абзац з прозвішчамі выканаўцаў, паставіць пад ім уласнае, побач — кропку... . Але не будзем спяшацца з кропкай. Хіба часта пачатак сезона Клуба сяброў оперы робіцца падзеяй у мастацкім жыцці горада, прываблівае не толькі захопленых меламанаў-дылетантаў, а і людзей дасведчаных? Прынамсі, пачатак сёлетні прывёў у залу і кампазітараў — а, як вядома, для іх з'яўлення на «чужым» канцэрце мае быць досыць сур'ёзная прычына.

І прычына такая была. Адкрываць сезон клуба прыехаў вядомы спявак з Масквы Сяргей Якавенка. Мінчане пазнаёміліся з ім пад час леташніх «Пракоф'еўскіх чытанняў» (гл. «ЛіМ» за 5.01.90 г., «Прыслухайцеся і палюбіце» Т. Песнякевіч). Сярод слухачоў аказаліся аднадумцы, якім захацелася падтрымліваць знаёмства з гэтым удумлівым, дасціпным і абаяльным музыкантам. Вось чаму Алена Саламаха, ініцыятар многіх цікавых спраў клуба, сапраўдная энтузіястка і знаўца музычнага мастацтва, наладзіла новую сустрэчу са спеваком, дапамагла яму знайсці ў Мінску творчых партнёраў для падрыхтоўкі дзвюх арыгінальных канцэртных праграм.

Абедзве праграмы неслі ў сабе той эстэтычна-асветніцкі, пазнаваўчы зарад, што і прыцягнуў увагу дапытлівых.

На вечары ў тэатры яны пачулі монаоперу Р. Фрыда «Пісьмы Ван Гога», тэкст якой складзены з сапраўдных лістоў мастака да брата Тэо. Разам з С. Якавенкам яе выконвалі выдатныя беларускія інструменталісты, якія не так даўно аб'ядналіся ў ансамбль «Класік-Авангард» (гл. «ЛіМ» за 2. 03.90 г., аднайменная публікацыя В. Карпенкі). Дырыжыраваў госць з Масквы Юрый Нікалаеўскі. А перш чым загучаў выразны барытон саліста, на ўспрыманне свайго твора настроіў 75-гадовы аўтар музыкі і лібрэта Р. Фрыд, расказаўшы гісторыю і мэту стварэння «Пісьмаў Ван Гога». Талент і псіхіка, геній і вар'яцтва, — вось што займала ўяўленне кампазітара, калі ён разважаў над трагічным лёсам мастака.

Два дзесяткі абразкоў склалі оперу — як дваццаць эпізодаў жыцця, дваццаць станаў душы, дваццаць карцін, выкананых, умоўна кажучы, у гаме фарбаў паміж чорнай і белай. Зразумела, што эпісталярная проза, злучаная з атанальнай музыкай, амаль не выклікала каляровых, жывапісных асацыяцый. «Разумовая музыка» асацыіруецца звычайна з рацыяналістычнай графічнасцю шахматных камбінацый, і тыя, хто цэніць твор мастацтва перш за ўсё як крыніцу эмоцый, а не інфармацыю для інтэлекту, аддае ў такіх выпадках належнае складанасці аўтарскай задумы, але сам твор успрымае «галавой».

Ды не было, здаецца, чалавека, не ўдзячнага клубу за свежыя, змястоўныя ўражанні: цудоўны спявак, малайцы-музыканты; markpознабакова эрудзіраваны аўтар (да ўсяго, Р. Фрыд — сур'ёзны аматар малявання); ды і копіі знакамітых вангогаўскіх палотнаў, выстаўленыя на падрамніках...

Дзякуй клубу і за тое, што сваё пасяджэнне сумясціў ён з высакароднай акцыяй: плакат побач з глядацкімі радамі заклікаў да ахвяраванняў у фонд «Дзецям Чарнобыля» — сродкі збіраліся для аплаты праезду пацярпеўшых дзяцей за мяжу і на пакупку 300 тон чыстага сыру. Людзі падыходзілі да урны, апускалі грошы...

ДРУГАЯ сустрэча з С. Якавенкам адбывалася праз дзень у Рэспубліканскім доме работнікаў мастацтваў. Клуб анансаваў яе як аўтарскі вечар яшчэ аднаго госця — старшыні расійскага кампазітарскага саюза Г. Дзмітрыева. (А фактычна адбыўся бенефіс спевака-асветніка, папулярызатара малавядомай сучаснай музыкі). Аўтар прадставіў свае творы і — мінскіх артыстаў, якія ўжо на рэпетыцыі ўразілі яго выканаўчай культурай. Выканаўцамі сапраўды нельга было не захапіцца.

Вось на маленькую сцэну, шчыльна застаўленую ўдарнымі інструментамі, выйшаў музыкант аркестра ДАВТа БССР Уладзімір Судноўскі. І перш чым сыграць дзівосную Санату Г. Дзмітрыева («Перкусіяната»), пазнаёміў аўдыторыю з гучаннем кожнага інструмента: вібрафона, званоў, гонга, талерак, званочкаў... Мы прызвычаіліся ўспрымаць іх як фарбы на сімфанічным палатне, а тут з іх металічна-халаднаватых тэмбраў утварылася самастойная жывая «санатная тканіна».

А як пранікнёна і драматычна загучала экзатычнае сямейства ўдарных у вынаходлівым творы Г. Дзмітрыева на вершаваны трыпціх М. Цвятаевай — кантаце «Сценька Разін» (для барытона, меццо-сапрана, ансамбля ўдарных інструментаў і

# АДНЫМ СЛОВАМ—ТАЛЕНТЫ



Вучань 2-га класа Музычнага ліцэя пры БДК Коля ГІМАЛЕТДЗІНАЎ.



Камерны аркестр Музычнага ліцэя.



Уручаюцца пасведчанні стыпендыятаў Цэнтра. (Штомесячная стыпендыя — 100 рублёў).

**Усе яны выступалі ў той вечар на сцэне Беларускай філармоніі — дзеці з Ташкента, Масквы, Кліна, Мінска. Іх сабрала разам «афіцыйная» нагода: прэзентацыя стыпендыятаў Усесаюзнага грамадскага дабрачыннага Цэнтра мастацтваў «Юныя таленты». Цэнтр гэты, якім кіруе вядомая спявачка Бэла Рудэнка, апякуе зусім юных таленавітых музыкантаў, наладжвае іх канцэрты па гарадах Саюза, садзейнічае гастролям за мяжой, спрыяе творчаму і прафесійнаму росту, дапамагае з набыццём высакаякасных інструментаў.**

**Сярод стыпендыятаў Цэнтра сёння — двое віяланчэлістаў-мінчукоў, выхаванцаў Музычнага ліцэя пры БДК, вучняў педагога Уладзіміра Перліна. Пра аднаго з іх, васьмікласніка Мікаэла Самсонава, які стаў лаўрэатам міжнароднага конкурсу, «ЛіМ» ужо неаднойчы пісаў. А імя другога таленавітага хлопчыка зараз паведамім: Коля Гімалетдзінаў. Яму толькі восем гадоў.**

**На другі дзень пасля канцэрта беларускія дзеці прымалі новых сяброў у сваім «музычным доме» — ліцэі. Навучэнцы ліцэя разам з гасцямі наладзілі канцэрт. Пад час сустрэчы дзеці-стыпендыяты расказвалі пра сябе, адказвалі на пытанні равеснікаў.**

**НАШ КАР.**
Фота Ул. КРУКА.

## *Працяг размовы*

# А ХТО «ПАЦЯГНЕ ВОЗ»?

**Пошта аддзела музыкі сведчыць, што праблемы мастацкага выхавання і асветніцтва, адраджэння духоўнай культуры ў грамадстве выходзяць у шэраг праблем першачарговых. Нагадаем публікацыю І. Пракапенкі «Збеднена ўсё наша грамадства...» («ЛіМ» за 27.04.90 г.), на якую адгукнуўся старшы выкладчык БДК А. Селачнік («Што ж здарылася з музычнай культурай?», 3.08.90 г.). Працягам размовы былі нататкі гродзенскага музыканта У. Лябецкага «Чаго мы вартыя —без культуры!» (17.08.90 г.) і каментатара Беларускага радыё І. Мільто «Ці ёсць выйсце з лабірынта?» (23.11.90 г.). Сёння — артыкул журналісткі Э. Пасынкавай.**

«ШТО Ж здарылася з музычнай культурай?» — пачуўся мне ўскрык душы ў «ЛіМе» за 3.08.90 г. старшага выкладчыка БДК Аляксандра Селачніка. Даўно сачу за такімі артыкуламі. Вельмі хвалюе ўсё, што датычыць музыкі. Падчас так шкада, што не атрымала раней музычнага выхавання. Іншы літаратурны твор так запаліць — аж горача стане —выказацца мелодыяй, як паэту:

Хочацца навеяць
Казку таямніцы
Гукамі мелодый...

Такія штуршкі сэрца я адчула яшчэ чытаючы аповесць Вольгі Іпатавай «Вузялок Святагора». Даўнавата было, а памятаецца, як слёзы кацілікаціліся па шчоках. Так і чулася мелодыя між радкоў.

Вяртаюся да «ЛіМа» за 19.06.87 г. — С. Берасцень быццам адказала на тыя думкі: «...рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі М. Казінец прапанаваў асновы музычнай адукацыі даваць у сярэдніх школах, дзе вывучэнне нот было б асновай пісьменнасці—як вывучэнне літар і лічбаў, а выхаванне музыкай трэба пачынаць з самых маленькіх...»

Што ж атрымліваецца?

Праз гады мы, як кажуць, на тым жа месцы, аніякага зруху. Літаратуру больш ці менш вывучаем, асабліва класіку. Можам весці спрэчкі — да прыкладу, пра Наташу Растову, уяўляем нават яе смех, гаворку, як танцавала. Але што і як яна спявала?.. Відаць, і сам класік не змог данесці да нас песні сваёй любімай гераіні. Ці не традыцыя здаўна — тое, што ад музыкі мы аддзелены морам літаратурнай рыторыкі? Не разумеем сімфанічных твораў Бетховена, Глінкі, Чайкоўскага, Шастаковіча. А яны ж як мастакі ў музыцы не слабейшыя за Льва Талстога ў літаратуры. Аднак жа зрабіліся даступнымі толькі музычна адукаваным людзям... Большасці з нас прыемна іх слухаць — дый толькі, а хіба мы разумеем? А музыка — гэта ж таксама мова!

Ад музыкі нас нібы знарок адмяжоўваюць яшчэ змалку, толькі вучаць спяваць у школьным хоры, лёгкія песні ў класе на ўроку спеваў. Гэтак маглі б і вершы на памяць завучваць, не ўмеючы іх чытаць. Дык жа вымуштроўваем кожную літарынку, лічбінку — каб правільна выводзіць на паперы, за памылкі ў сачыненні зніжаюць адзнаку... І я нешта не разумею: ці маем мы права пераскокваць з класа ў клас ды яшчэ атрымліваць залаты медаль, не авалодаўшы асновамі музычных ведаў?..

Зноў звяртаюся да «ЛіМа» (ужо за 23.01.87 г.).У ім цікавы артыкул Васіля Віткі «Асцярожна: дзеці». Не магу ўтрымацца, каб не прывесці ўрывачак: «Медыкі і педагогі спрачаюцца, высвятляюць—з якога ўзросту: з шасці ці пяці трэба пасылаць дзяцей у школу, а амерыканка Глорыя Кліфард пачала навучаць свайго сына грамаце, калі яму ледзь споўнілася чатыры... месяцы! Яна прымацоўвала на розныя рэчы ліст паперы, дзе буйнымі літарамі былі напісаны словы, якімі называліся гэтыя рэчы. Ужо цераз паўгода, малое, зірнуўшы на слова, беспамылкова паказвала на адпаведны прадмет. Свой метад Глорыя Кліфард праверыла на некалькіх немаўлятах ва ўзросце ад чатырох да пяці месяцаў. Усе яны, па яе сцвярджэнні, аказаліся здольнымі вучнямі».

Такім чынам можна было б навучаць і нотам. Чалавек нараджаецца з крыкам — гэта ягоны першы гук, мабыць, музычны. Маці напявае калыханку, цешыць малога, які слухае спеў, прагавіта ўбіраючы ў сябе кожны гук, перастае плакаць, усміхаецца, гудзе-агукае — падпявае. Для яго нешта, відаць, істотнае ўяўляецца.

Але вось малы падрастае. Яго адцягваюць сілком ад музыкі, разлучаючы з унутраным спевам. Яму навязваюць нейкі твор, ад якога холадам патыхае, нецікава слухаць, нібыта кашу сухую пхаюць у рот, без масла і малака. Не пракаўтнуць. Ён душыцца нясмачнаю «кашаю», выплёўвае яе. Адварочваецца ад нясмачнае «стравы». Тлумачэнні не даходзяць да дзіцячага сэрца, яно чарсцвее.

НЕЯК разгаварылася з падлеткамі — ці любяць яны вершы.

— Люблю, вельмі люблю, — адказвае хлопчык-пяцікласнік. — Толькі я іх не разумею... Спрабаваў чытаць...

Вось так! Не толькі музыкі, але і вершаў школьнікі не разумеюць. Не сустракала, дарэчы, апошнім часам кніжак вершаў для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Нарэшце, убачыла — у прыгожай вокладцы, з густам аформленую, «для старшего школьного возраста» кніжку В. Грышановіча «Стронций в капле росы». Гэта тыповыя модныя цяпер рок-вершы, а «Око бездны» гэтак і вызначаецца: «рок-паэма». Можа, старшакласнікам тое — для душы. Але мяне тыя вершы не вельмі ўсхвалявалі — рацыяналістычныя, як бы закамянелыя.

Ступаю задуменна па парку з гэтаю кніжкаю. Насустрач трое падлеткаў. Мінаю. Раптам нешта цвёрдае бац па спіне. Азірнулася, спакойна пытаюся:

— Што, хлопцы, вам ад мяне трэба? Я ж не дзяўчынка, у бабулі вам годная, а вы загульваеце са мною?.. Ды не ўцякайце. Не бойцеся. Давайце пагамонім... Дык чаму вы кідаеце ў дарослых каменем?

— Гэта не камень — недагрызак ад яблыка! Гэта Ігар кінуў, — паказвае тоўсты падлетак на хударлявага, з выгляду нахабнаватага.

— Ну и бросил! Что с того, — цыркнуў слінаю, зіркаючы спадылба.

— А вось кніжку вершаў чытаў? Для вас напісана, — паказваю.

— Мы не любім вершаў, — адказвае за трох Ігар.

— Колькі табе гадоў? — цікаўлюся.

— Чатырнаццаць. А што?

— Вершаў не любіш?

— Цярпець не магу!

— А ў школе хіба не вучыце іх?

— Не! — хорам адказалі трое пагодкаў.

— Мяне да дзяўчат болей цягне, як і іх да мяне, — кажа Ігар. — Мы іх... трахаем! — цынічна зарагатаў, пазіраючы то на мяне, то на сябрукоў, што ледзь прыкметна падтаквалі — завадатар, па ўсім відаць, Ігар.

— А спевы любіце? У школе ж яны бываюць?

— Спевы? — прыжмурыўся Ігар. Настаўніца па спевах падабаецца...

магнітафоннай стужкі)! У гэтай разгорнутай, насычанай і вобразнасцю і драматычным дзеяннем музычнай сцэне страсна гучалі галасы С. Якавенкі і яго яркай партнёркі — салісткі беларускай оперы Вольгі Цішынай. На некалькіх інструментах шчыраваў У. Судноўскі, які адначасова нязмушана, арганічна дырыжыраваў сваім ансамблем ударных («ЛіМ» пісаў і пра гэтых энтузіястаў, якія згуртавалі сваю суполку ў вольны ад працы ў аркестрах час, — 25.08. 89 г., «Мастацтва не церпіць раўнадушных» П. Дударэнкі). Маладыя музыканты з кранальнай заўзятасцю выконвалі свае партыі, напісаныя не без уплыву канкрэтнай музыкі, што вымагала ад іх асаблівага артыстызму: давялося і хорам спяваць, і пляск волжскіх хваляў імітаваць з дапамогай звычайнай вады, і свістаць «па-разбойніцку», у пальцы.

...Аціхлі воплескі, і С. Якавенка прапанаваў, паводле ягоных слоў, альтэрнатыву цяперашнім невясёлым штодзённым думкам ды настроям — парадыйны вакальны цыкл А. Фляркоўскага «Балада пра казла». Гэткія 9 варыяцый на тэму «Жил-был у бабушки...», якія спявак выканаў разам з канцэртмайстрам Р. Бялецкай, стварылі ў зале дураслівую атмасферу капусніка. А на заканчэнне С. Якавенка праспяваў «Музычны ліст» С. Пракоф'ева — мала каму вядомы нечаканы жарт неўтаймаванага кампазітарскага генія.

Слухачы, як і ў першы вечар, дзяліліся сваім «за» і «супраць»: той захапіўся вытанчанай Санатай Г. Дзмітрыева, той пратэставаў супраць знарочыста зніжанага стылю музычнай пародыі... Словам, раўнадушных не было, зноў кожнаму досталася і свая часцінка расчараванняў, і свая часцінка сумненняў, і свая часцінка свята.

ПРЫ СЛОВЕ «СВЯТА» людзі, нават абыякавыя да класікі, любяць успамінаць модны сёння класічны выраз: «пир во время чумы». Бывае, згадваюць проста не да месца, і тады ўва мне ўзнімаецца дух пярэчання, бо памятаю менш вядомае, але не менш мудрае выслоўе старажытных: «Не загіне горад, у якім ёсць свята». Можа, варта прыслухацца да яго ў нашу несвяточную часіну? І хай мне даруюць неўсвядомленую вольнасць у абыходжанні з класікам, але атрымліваецца амаль як у яго: «Не пакідайце ж горад наш без святаў — каб не ўмёрлі...»

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

**Аддаляючыся ад падлеткаў, глыбока задумваюся...**

**Я крыху адхілілася ад галоўнае тэмы — музычнае выхаванне. «Выхаванне» — гэта навыкі паводзін, прышчэпленыя сям'ёй, школай, асяроддзем, якія праяўляюцца ў грамадскім жыцці, — тлумачыць слоўнік. А па-мойму, выхаванне — гэта навука. Што можа даць сям'я, у якой бракуе часу, магчымасці, спецыяльных ведаў? Большасць бацькоў так і лічыць, што галоўнае — накарміць дзіця і апрануць, астатняе дасць школа.**

**Дзіця ж, каб не палезла ў шкоду, вымагае пастаяннага дагляду. Дарослы, да прыкладу, ведае, чаго яму хочацца: знайсці цікавы занятак, пачытаць добрую кнігу. Ён разумна плануе свой дзень, размяркоўвае кожную хвіліну, тым больш, хатняга клопату хапае. Адкуль жа дзіцяці ведаць, чым можа яно запоўніць свой час? Яно муляецца, пакутуе, сумуе, шукаючы адказу на розныя «чаму?». Дома бацькі амаль не знаходзяць мінуты, каб удзяліць увагу малому, звыклая гаворка: «Ідзі! Не перашкаджай!». Тады вуліца часцяком выхоўвае дзяцей, падлеткаў. А яна, вядома, не можа вы-хаваць, за-хаваць, дадзенае малому ад першага дыхання, развіць духоўна далей, а не вы-халасціць душу.**

**У кожнай маленькай істоце існуе душа-Бог, якога можа выціснуць д'ябал і пасяліцца ў душы, каб кіраваць па-свойму. А калі «пакінуў душу Бог» — няма той натхняльнай духоўнай моцы, якая робіць творчай працу, жывіць павагу да блізкіх.**

**«У ШКОЛЬНЫХ ПРАГРАМАХ відавочны дысбаланс паміж прадметамі, — адзначае А. Селачнік, — якія развіваюць лагічнае і вобразнае мысленне. Самая вялікая бяда ў тым, што, сілкуючы юны розум масай інфармацыі, школьныя ўрокі пакідаюць недагружаную душу, неабуджанымі пачуцці... Эмацыянальная глухата — вынік рацыянальнага выхавання, эмацыянальная тупасць — ад няздольнасці суперажываць... Невыпадкова многія стагоддзі ўплывае на розум і сэрца людзей царква: яна ўздзейнічае на чалавека сродкамі высокага мастацтва. Да разумення мастацтва рыхтаваць чалавека трэба з маленства. Паглядзіце збоку на паводзіны дзяцей, якія вучацца ў дзіцячых музычных школах, у асноўным яны вылучаюцца сярод сваіх равеснікаў выхаванасцю, культурай у адносінах...»**

**Безумоўна, сэрцы ў гэтых дзяцей больш чулыя, акрыленыя — іх не толькі не спустошылі, але і ўзбагацілі ведамі, далучылі да мастацтва.**

**Духоўны свет кожнага чалавека, хай сабе і маленькага, куды складаней за неадухоўлены музычны інструмент, мае значна болей струнаў-пачуццяў, якія трэба «разыгрываць», як новую скрыпку ці віяланчэль. Кожны інструмент вымагае індывідуальнай настройкі. Чалавек — істота «шматструнная». Тым не менш мы намагаемся ўсіх настройваць агулам. Вось і гучаць «струны» душы не ў лад, глухавата, да таго ж, не «разыграныя». Незразумелых прадметаў няма, ёсць незразумелыя тлумачэнні, казаў Герцэн. Тупых дзяцей, на маю думку, таксама не надта многа — ёсць тупое выкладанне, у выніку якога душа чалавека застаецца замкнёнаю, сам-насам са сваімі пачуццямі, з адвечным пытаннем — «ЧАМУ?». Чалавек пачынае шукаць выйсця з тупіковага становішча. Але ж ён сляпы — і...валіцца ў багну, якая засмоктвае яго ўсё глыбей.**

**Кіраўніцтва задумваецца, чым заняць, «развлечь» моладзь. Узводзяцца клубы-гмахі, шумныя кафэ з дыскатэкамі... Усё дзеля забавы — не дзеля спажывы глыбінь душэўных.. Душа спустошаная, не ўсцешаная, шукае нечага. І цяпер ужо кіраўніцтва падпарадкуецца моладзі, ідзе на повязі, ва ўсю стараецца. Хочаце курыць? Калі ласка! Піць? Калі ласка! Што ж, кіраўніцтва выйшла з таго самага асяроддзя — недавыхаванасці. Дык што яно можа прапанаваць? Не даўшы рады ў кіраванні, яно абыякава махае на ўсё рукою — гары, маўляў сінім полымем...**

**«Масавая глухата да цудоўнага, няздольнасць успрымаць сапраўднае мастацтва, апанавала ўжо некалькі пакаленняў... Цяжка знайсці душу, гатовую ўстрапянуцца... Аднабаковая прапаганда забаўляльнай музыкі выхоўвае гультайства, спажывецтва, прыводзіць да парушэнняў экалогіі духу, густу — бездухоўнасці памкненняў... Час усім разам грунтоўна, з трывогай падумаць пра якасць чалавечай душы — не толькі пра якасць адзення і прадметаў спажывання. Наспеў час усур'ёз заняцца экалогіяй музыкі, экалогіяй культуры... Павінен жа хтосьці ўсур'ёз адказваць за музычную палітыку...» — піша А. Селачнік.**

**Натхнёна, пераканаўча выступае паважаны выкладчык БДК. Аднак каго ж можна прымусіць сёння несці адказнасць за выхаванне музычнае ды і ўвогуле за выхаванне? Можа, за гэта павінен узяцца і ўзначаліць справу чалавек, які сам і ўзняў пытанне? Бо так у нас вядзецца — хто прапануе, той і «цягне воз».**

**Эмілія ПАСЫНКАВА, журналістка.**

# «Маленькая дэталь»...

ПА НАШЫХ аднолькавых, стандартных афішах наўрад ці можна вызначыць, наколькі рознакаляровыя з'явы складаюць палітру музычнага жыцця Мінска. Што ж датычыць духавых інструментаў, асабліва медных, дык тут і самі інструменты, і выканаўцы, іхнія імёны застаюцца мала каму вядомымі. Вось і зноў цішком прайшоў канцэрт-сустрэча з маскоўскімі трамбаністамі на сцэне Цэнтральнай музычнай школы № 1 г. Мінска.

Дарэчы, даўнія творчыя і педагагічныя сувязі лучаць Беларускую дзяржаўную кансерваторыю з маскоўскімі навучальнымі музычнымі ўстановамі, у тым ліку і з педагагічным тай катэгорыі людзей, безумоўна моцных характарам, воляй, я адношу Расціслава Анатольевіча Лагонду — прадстаўніка нашай беларускай выканаўчай культуры на духавых інструментах на ўзроўні ўсесаюзным і міжнародным. Увесь складаны шлях у мастацтва ён прайшоў, абапіраючыся на свае здольнасці, талент, розум, далучыўшыся да музыкі простым сялянскім юнаком. Пасля трох курсаў Мінскага музвучылішча—паспяховая здача экзаменаў у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, адначасовае запрашэнне на працу ў аркестр радыё, затым праца ў Дзяржаўным сімфанічным аркестры БССР, вучоба ў маскоўскай аспірантуры. Прызнаннем беларускага трамбаніста на сталічным узроўні з'явіліся не толькі публічныя канцэрты, але і запрашэнне на працу ў оперна-сімфанічны аркестр Усесаюзнага радыё і тэлебачання. Акрамя той вялікай карысці, што выканаўца набыў ад запісаў мноства значных твораў, яму давялося пазнаёміцца ў працы з вядучымі айчыннымі выканаўцамі на трамбоне, з сусветна вядомымі дырыжорамі.

І вось ён — дацэнт кафедры духавых інструментаў БДК, сумяшчае педагагічную працу з навуковай дзейнасцю. Выязджае ў музычныя вучылішчы рэспублікі для аказання метадычнай дапамогі. Нярэдка працуе ў складзе конкурсных журы. Асабіста мне яшчэ імпануе веданне Р. Лагондам англійскай мовы. Дарэчы, гэтая акалічнасць адыграла не апошнюю ролю пры выбары кандыдатуры для трохгадовай працы, паводле кантракту, за мяжой. Па запрашэнні Каірскай нацыянальнай кансерваторыі ён паехаў у Егіпет, дзе, між іншым, авалодаў яшчэ арабскай мовай. Ну, а з польскай — таксама ніякіх праблем. Англійская ж мова дапамагае непасрэдна знаёміцца з замежнымі метадычнымі выданнямі, музычнымі часопісамі — на такую інфармацыю ў нас «голад».

За амаль 25-гадовую працу ў Р. Лагонды было шмат выпускнікоў. Толькі мінскія аркестры на 80 працэнтаў «укамплектаваны» трамбаністамі і тубістамі, якія прайшлі ягоную «школу». Сярод іх — Віктар Каўрэцкі. Той, хто ведае гэтага музыканта, відаць, ужо звыкся з думкай пра ягоныя поспехі: пасля перамогі на Усесаюзным конкурсе ён вытрымаў яшчэ больш складаны конкурс — у Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР на месца першага трамбаніста, ды і пасля таго прыбавіў у самастойных занятках, скіраваных на ўдасканаленне выканаўчага майстэрства.

Выступленне В. Каўрэцкага пад час канцэрта-сустрэчы з маскоўскімі духавікамі сталася сапраўднай сенсацыяй. Ягоная ігра не пакінула нікога абыякавым, кранула, як мне здалося, не толькі слухацкія пачуцці, а нават і нацыянальныя. Што я маю на ўвазе?

Нешта важнае, значнае страцілі мы ў сваіх нацыянальных пачуццях. Што атрымліваецца? Вось мы адчулі змены ў адносінах да нацыянальнага пытання: пачалі адраджаць родную мову вельмі часта па радыё, на тэлебачанні гучыць народная музыка. Увогуле, людзі ўхваляюць усё гэта, але ж, мабыць, кожны адчувае, што гэтага недастаткова, патрэбны не мерапрыемствы, а з'явы больш адчувальныя па ўздзеянні на нацыянальныя пачуцці. Адзін з многіх недахопаў, як мне здаецца, тое, што мы вельмі дрэнна ведаем сваіх лепшых прадстаўнікоў. У нас ці дэфармавана, ці ўжо зусім сцёрта натуральнае пачуццё гордасці за людзей свайго краю, за беларусаў. Я лічу, што ў той жа сферы музычнай культуры ў нас ёсць чым і кім ганарыцца, ёсць шмат дастойных прадстаўнікоў нацыі, але мы вельмі мала пра іх ведаем...

Разумею, што падзея, пра якую я тут паведаміў чытачам, — толькі маленькая дэталь вялікага механізму, але ж усё вялікае складаецца з маленькага, і таму надаю значэнне гэтай справе, як рэальнаму ўкладу ў вырашэнне нашых вялікіх і складаных праблем. Калі кожны з нас зойме такую ж дзейсную пазіцыю, накшталт той, якую занялі аб'яднаныя агульнай ідэяй адрадзіць высокі выканаўчы, культурны ўзровень маскоўскія і нашы, беларускія, музыканты, думаю, мы зрушым з месца цяжкі воз праблем нашай культуры. Ад гэтага зруху ў пэўнай ступені залежыць, якую мы будзем слухаць музыку, які будзе ўзровень яе выканання і г. д.

Ды па сённяшні дзень жывуць старыя стэрэатыпныя інструкцыі, якія не можа перакрэсліць ніводны вучэбны ці творчы калектыў і нават Міністэрства культуры БССР. Напрыклад, калі зыходзіць з сутнасці інструкцый, дык патрэбна, каб больш таленавітыя, тыя, хто дасягаў большых поспехаў у гады вучобы ў кансерваторыі, абавязкова нараджаліся ў Мінску, або, барані Бог, каб не выходзілі замуж ці не жаніліся, нават калі адслужылі ў арміі. А жыццёвыя ж абставіны складваюцца па-рознаму! Хіба можна заганяць людзей у такое ідыёцкае становішча, калі яны не маюць права кіраваць сваім жыццём? Праблема прапіскі паламала ўжо лёс многіх таленавітых музыкантаў, якія па сваіх здольнасцях патрэбныя былі ў вядучых калектывах, але... Ці не таму мы час ад часу звяртаем увагу на праблему неўкамплектаванасці нашых аркестраў і г. д.? Нават лаўрэацкія званні, заваяваныя ў цяжкай конкурснай барацьбе, якія сведчаць пра ўсесаюзнае прызнанне, нічога не вартыя, калі пытанне датычыць прапіскі, кватэры і нават інтэрната...

Дарэчы, не абмінула гэта і лаўрэата Усесаюзнага конкурсу В. Каўрэцкага, які дагэтуль жыве ў Івянцы і штодня вымушаны ездзіць на рэпетыцыі, канцэрты, на выкладчыцкую працу ў родную кансерваторыю... Заўважце, як тут не суадносіцца адно з другім. І пакуль мы будзем адводзіць вочы ад гэткіх «рэалій», датуль, відаць, і не навучымся ганарыцца сваімі людзьмі, берагчы свае таленты, якія, на бяду чыноўнікам, не выбіраюць месца нараджэння і слушна лічаць усю Беларусь сваёй Радзімай.

**Пятро ДУДАРЭНКА,**
**артыст аркестра ДАВТа БССР.**

стварылі яе філію. Адным з першых напісаў заяву М. Ганчарык. Аршанскія літаратары пад кіраўніцтвам М. Ганчарыка, які ўзначаліў філію, цікавіліся літаратурным жыццём, абмяркоўвалі яго надзённыя праблемы, не абміналі тэарэтычных пытанняў.

**Філія мела свае студыі не толькі ў Оршы, але і ў Горках, а таксама ў Мсціславе. І цэнтр яе неўзабаве перамясціўся ў Горкі. Па-першае, сам М. Ганчарык пачаў працаваць асістэнтам на кафедры раслін Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, што ўзнікла на базе мясцовага інстытута, а па-другое, што таксама вельмі важна, у акадэміі сабралася нямала людзей, літаратура для якіх стала прызваннем. З 1 лютага 1926 года загадчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры быў прызначаны М. Гарэцкі. На гэтай жа кафедры працавалі Паўліна Мядзёлка, нядаўні выпускнік Літаратурнага інстытута імя Валерыя Брусава ў Маскве Юрка Гаўрук, знаёмы М. Ганчарыка яшчэ па вучобе ў агранамічна-каморніцкай школе Навум Сапранкоў. Усе яны з'яўляліся актыўнымі сябрамі «Аршанскага маладняка».**

Пра тую часіну ў М. Ганчарыка засталіся самыя светлыя ўспаміны: «Але было асабліва важным тое, што загадчык кафедры Максім Гарэцкі аказваў заўсёды добразычлівую і аўтарытэтную дапамогу «маладнякоўцам» філіі. Ці гэта былі прыватныя звароты да яго за парадамі паасобным сябрам маладнякоўцам, ці гэта была дапамога шырокай грамадскай працы філіі, Максім Гарэцкі заўсёды з вялікай прыемнасцю ішоў на дапамогу нам. Асабліва быў карысным яго ўдзел у літаратурных вечарах, якія наладжваліся маладнякоўцамі, ці пры калектыўных разглядах творчасці паасобных сяброў філіі». Сябрамі філіі з'яўляліся Тодар Кляшторны, Васіль Каваль, Алесь Вечар, Юлій Таўбін і іншыя.

З аднаго боку, быў вопытны і аўтарытэтны настаўнік, а з другога — удзячныя вучні-літаратары. Студыйцы жылі актыўнай творчай дзейнасцю. У прыватнасці, захаваліся планы работы Горацкай студыі на 1926—1927 гады. У іх чытаем: «Вывучаць літаратуру з боку філасофскага, зачым лічыць неабходным вывучэнне той часткі матэрыялістычнай філасофіі, якая гаворыць аб ёй. Утвараць разгляд некаторых твораў арыгіналамі на нямецкай і па групе славянскіх моў з мэтай разумення і большага іх вывучэння, прычым ўвесці ў практыку мастацкія пераклады з навейшых чужаземных мастакоў слова на тыя творы, якія будуць разглядацца на сходах».

Сходы праходзілі бурна. Заслухоўваліся і такія даклады, як «Проза і віды прозы», «Аб стылістыцы», з якімі выступіў Ю. Гаўрук. А. Вечар зрабіў даклад «Сімвалізм». Студыйцы абмяркоўвалі творы «Пачуцці» Кузьмы Чорнага, «Голы звер» Міхася Зарэцкага, «На імперыялістычнай вайне» М. Гарэцкага і іншыя.

Творчай трыбунай для маладнякоўцаў стаў часопіс «Аршанскі маладняк». Выйшла сем нумароў часопіса (два ў 1925, тры ў 1926, па адным у 1927 і 1928 гадах). Адным з самых актыўных аўтараў «Аршанскага маладняка» быў М. Ганчарык, прычым часта выступаў з некалькімі матэрыяламі.

Вось першы нумар. Па ўсім відаць, рукой кіраўніка філіі напісаны зварот да чытача «Ад рэдакцыі», у якім літаратары-пачаткоўцы дэкляруюць планы, ставяць задачы. Тут жа апублікаваны верш М. Ганчарыка «Усміхаючыся сонцу ў вочы», вытрыманы ў фальклорных традыцыях:

**Запазнілася, заспалася**
**дзяўчына**
**Пасля песні майскай**
**запаўночы,**
**На паранкі ў поле гналася**
**з скацінай,**
**Усміхаючыся сонцу ў вочы.**

Верш падпісаны псеўданімам «Я. Сявец». А вось пад артыкулам «Аб творчасці Максіма Багдановіча», прымеркаваным да восьмай гадавіны з дня смерці паэта, стаіць уласнае прозвішча М. Ганчарыка. Артыкул цікавы, ён дае ўяўленне аб стаўленні аршанскіх маладнякоўцаў да спадчыны класіка нацыянальнай літаратуры. М. Ганчарык не пагаджаўся з тымі, хто бачыў у асобе М. Багдановіча толькі «песняра вялікай прыгажосці і натхнення». На яго думку, «як надзвычай здольны паэт і энергічны працаўнік на ніве беларускага адраджэння нашаніўскай пары, Багдановіч безумоўна не мог у сваіх творах не адбіць і не выявіць тыя настроі, тыя імкненні, якія панавалі тады сярод беларускіх адраджэнцаў, значыць, не мог абмежавацца выяўленнем у сваёй творчасці толькі адной статыкі, а павінен быў як грунт, як аснову сваіх твораў, даць дынаміку акаляючага яго жыцця. І ўсе яго творы, гэта высокамастацкі, прыгожы пэрл, агульны змест якіх кіпучае змаганне, у якім і згарэў сам паэт».

У другім нумары «Аршанскага маладняка» М. Ганчарык змясціў нататкі «З падарожжа па Украіне». Праўда, у іх чыста эмацыянальнае пераважае над аналітычным.

У гэтым жа нумары, а таксама ў трэцім М. Ганчарык выступіў і як паэт. Працягваў ён займацца і крытычнай дзейнасцю. З чацвёртага нумара ў «Аршанскім маладняку» з'явіўся пастаянны раздзел бібліяграфіі, у якім рэцэнзаваліся кнігі маладых аўтараў, у першую чаргу, зразумела, саміх маладнякоўцаў. З артыкуламі, рэцэнзіямі выступалі М. Ганчарык, Ю. Гаўрук і сябра філіі Уладзіслаў Прыбыткоўскі, які таксама спрабаваў свае творчыя сілы і ў паэзіі, друкаваўся на старонках часопісаў «Маладняк» і «Аршанскі маладняк».

**Найбольш поўнае ўяўленне аб Ганчарыку-крытыку дае артыкул «Маладая сучаснасць» з падзагалоўкам «Аб нашай крытыцы», змешчаны ў шостым нумары «Аршанскага маладняка». Назва гэтай публікацыі не арыгінальная. З падобным артыкулам у трэцім нумары часопіса «Маладняк» за 1927 год выступіў Я. Калядны, робячы «крытычны агляд часопісаў і зборнікаў філій «Маладняка». Артыкул у Я. Каляднага атрымаўся вострым, палемічным, перапала ў ім і аршанскім маладнякоўцам. Не будзем, аднак, унікаць у змест палемікі Я. Каляднага і М. Ганчарыка. Не абышлося без перахлёстаў, навешвання ярлыкоў і ў самога М. Ганчарыка. Але, чытаючы яго артыкул, нельга не заўважыць і таго, што ён здолеў пайсці далей прыватнага выпадку, задумаўся аб задачах мастацкай крытыкі, аб сумленнасці і прынцыповасці як важнейшай перадумове сапраўднай крытыкі.**

Бурліла творчае жыццё ў Оршы, Горках. Уяўленне аб гэтым даюць і матэрыялы, што публікаваліся ў «Аршанскім маладняку» пад рубрыкай «Хроніка». Напрыклад, 12 лютага 1928 года (з гэтага месяца філію ўзначальваў Алесь Вечар) у Горках прайшла акруговая канферэнцыя Аршанскай філіі «Маладняка» сумесна з прадстаўнікамі літаратурных студый Мсціслава, Оршы і Горак, на якой прысутнічала 19 дэлегатаў. Прыкладна ў гэты час (са снежня 1927 года) у Оршы пачаў працаваць літаратурны гурток: «ставяцца даклады... робяцца разгляды сваіх твораў, выпраўляюцца памылкі таварыскай самакрытыкай».

Дзве студыі працавалі і ў Горках — у сельскагаспадарчай акадэміі і на агульнаадукацыйных курсах.

**Аднак ужо праз год-другі літаратурнае жыццё, такое актыўнае ў сярэдзіне дваццатых гадоў, у гэтым рэгіёне паступова пачало затухаць. Сказалася, безумоўна, і тое, што неўзабаве «Маладняк», як літаратурная арганізацыя, перастаў існаваць. Некаторыя яго сябры, праўда, уліліся ў Беларускую Асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў, ды ўжо гэта былі не тыя задзірыстыя юнакі, гатовыя перайначыць ледзь не ўвесь свет, стварыць сваю літаратуру. Большасць жа тых, хто групаваўся ў Горацкай студыі, ўвогуле пакінулі гарадок, выехалі ў іншыя гарады—хто на вучобу, а хто на працу.**

У Менску апынуўся і М. Ганчарык, пачаўшы ў 1929 годзе загадваць кафедрай батанікі ў Акадэміі навук БССР. Гэта, можна сказаць, і вызначыла яго далейшы лёс. М. Ганчарык цалкам аддаўся навуковай дзейнасці. Ужо ў 1931 годзе ён намеснік дырэктара Інстытута біялогіі, яшчэ праз два гады па сумяшчальніцтве ўзначаліў кафедру батанікі і фізіялогіі раслін у Беларускім інстытуце садоўніцтва і агародніцтва ў Лошыцы, стаў прафесарам.

Даследчыцкія клопаты цалкам забіралі час, таму было не да вершаў, тым больш да літаратурна-крытычных артыкулаў. А тут яшчэ чорны цень сталінізму. Арыштавалі М. Ганчарыка з традыцыйным абвінавачаннем «вораг народа» ў трыццаць шостым, асудзілі на сем гадоў катаргі. Гэтыя сем гадоў сталі адзінаццаццю. Вызваліўся толькі ў 1947 годзе, а праз год зноў арышт. Да ранейшых абвінавачанняў дабавілася яшчэ больш неверагоднае. Маўляў, М. Ганчарык пры закладцы Батанічнага саду ў Мінску невыпадкова зрабіў так, каб алеі ад цэнтра разыходзіліся сіметрычна. Гэта ж ні што іншае, як знак фашысцкім самалётам для бамбардзіроўкі горада...

Чарговы прыгавор — дзесяць гадоў, высылка ў Ігарку. Рэабілітавалі ў 1954 годзе. Тагачасны прэзідэнт Акадэміі навук БССР В. Купрэвіч дапамог уладкавацца ў Інстытут біялогіі... М. Ганчарык апублікаваў дзесяткі навуковых прац, падрыхтаваў 16 кандыдатаў навук, тры з якіх сталі дактарамі навук... А літаратура... Не да літаратуры зноў было. Нават тыя, хто сустракаўся з Міхасём Мікалаевічам неаднойчы, лічыўся яго вучнем, не ведалі, што ў маладосці ён пісаў вершы, друкаваўся. Пра свае ж сустрэчы з пісьменнікамі М. Ганчарык расказваў ахвотна. Асабліва ганарыўся, што добра ведаў Янку Купалу, з якім пазнаёміўся яшчэ ў час Усесаюзнай сельскагаспадарчай і саматужна-прамысловай выстаўкі, дзякуючы Канстанцыі Буйло. Неаднаразова сустракаўся з народным песняром, нават дапамагаў яму парадамі ў вырошчванні кветак.

...«Камуніст і маладняковец, беларускі дзеяч яшчэ з нашаніўскіх часоў»—так ахарактарызаваў М. Ганчарыка ў сваёй вядомай працы «Маладняк» за пяць гадоў» М. Гарэцкі. Сціпла як быццам сказана, ды толькі прыгадайма, як шмат значылі падобныя беларускія дзеячы ў часы, калі ўсё беларускае заваёўвала сабе права на жыццё. Таму і не павінны мы забываць ўспамінаць добрым словам не толькі выдатнага вучонага Міхася Ганчарыка, але і Ганчарыка-літаратара, таго Сяўца, хто сеяў на ніве нацыянальнага адраджэння і свае зярняты

Алесь МАРЦІНОВІЧ.



Міхась ГАНЧАРЫК пасля вяртання на Беларусь. Каля 1957 года.
Фота з архіва.

# ЧАЛАВЕКУ І НАРОДУ

(Пачатак на стар. 2—3).

дзі, і таму з'яўляюцца высакародным набыткам і помнікам агульначалавечай духоўнай культуры.

Палітычная крывадушнасць—найцяжэйшая хвароба дзяржаўных вярхоў любой сістэмы. Яна здольная выклікаць поўную дэградацыю самых светлых ідэалаў і памкненняў, самых высакародных рэвалюцыйных актаў і тэорый. У нашай краіне ад імя сацыялізму тварыўся антысацыялізм, ад імя інтэрнацыяналізму — шавіністычны імперскі антыінтэрнацыяналізм, ад імя дэмакратыі працоўных — замшэлая сярэднявечная дэспатыя, ад імя пралетарскага гуманізму — арганізаванае масавае чалавеканенавісніцтва. Карацей: ад імя камунізму — звычайны таталітарызм і інтыкамунізм. У выніку ад імя не такіх ужо благіх (па тых змрочных часах) канстытуцый тварылася непрыхаваная наглая антыканстытуцыйнасць: грамадзянскае права падмянялася здзіўляючым сваім цынізмам абсалютным правам эліты і звышэліты, гэткім жа абсалютным бяспраўем працоўных. Пры гэтым ніяк не можна пагадзіцца з тымі, хто даводзіць, што ўвогуле не было ў нас і няма ніякіх правоў чалавека. Не. Яны былі. Яны ёсць. Але гранічна і свядома збедненыя, гранічна і свядома ўрэзаныя, гранічна і свядома ігнаруемыя нават у сваім жабрацкім стане. Нездарма ж ініцыятар перабудовы М. С. Гарбачоў, выказваючыся наконт задачы партыі ў гэтай галіне, ужывае паняцце «ўзбагачэнне» правоў чалавека. Ды не толькі аб узбагачэнні трэба сёння дбаць нам. А зноў жа — аб адраджэнні.

З пачаткам перабудовы бадай упершыню ў пасляленінскі перыяд з вуснаў вышэйшай партыйнай асобы ў станоўчай інтэрпрэтацыі прагучала паняцце ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА, упершыню ў афіцыйных дакументах вышэйшых партыйных інстанцый — XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, XXVIII з'езда КПСС — з'явіліся раздзелы, прысвечаныя гэтай карэннай праблеме грамадскага жыцця. Але нягледзячы на такую перамену, правы чалавека і народаў па-ранейшаму застаюцца ў нашай краіне пад пагрозай: партыйна - дзяржаўны таталітарызм і кансерватызм, як навейшая разнастайнасць яго ідэалогіі, псіхалогіі і маралі, вельмі неахвотна пакідаюць авансцэну палітычнага жыцця.

Ці не таму, грэбліва ігнаруючы найгалоўнейшае з фундаментальных правоў чалавека—права на жыццё (што ў нашай пачварнай сістэме не робіцца без санкцыі вышэйшай палітычнай эліты і яе першай асобы?), ад усіх нас хаваюць галоўную праўду і неабходнасць: ратуючы забруджаныя рэгіёны ад маруднай смерці, мы павінны сёння сканцэнтраваць усе намаганні, каб выратаваць ад раптоўнай выбуховай чарнобыльскай смерці і сябе, і ўсю Еўропу ад Атлантыкі да Урала?.. Сусветная прэса з нарастаннем даводзіць думку: Чарнобыльская АЭС у яе сённяшнім стане — на мяжы апошняй, канчатковай катастрофы.

Ці не таму, груба адкідаючы палітычныя правы чалавека і свае ўласныя ідэйна-палітычныя сентэнцыі аб неабходнасці актыўнага ўдзелу ў палітычным працэсе працоўных мас, парушаючы ўсе нормы нават брэжнеўскай канстытуцыі ды спараджаючы тым самым і левы, і правы экстрэмізм, вышэйшая і высокая эліта КПСС на працягу пяці год перабудовы люта бараніла сваю палітычную манаполію не толькі ад шматлікіх дэмакратычных рухаў і арганізацый, але і ад роднага рабочага класа?.. Бо толькі так і не іначай я разумею той факт, што рабочыя менш за ўсё прадстаўлены сёння ў Вярхоўным Савеце СССР і БССР, дзе ПАДАЎЛЯЮЧУЮ большасць трывала ўтрымліваюць менавіта парт-дзярж-гаспадарчыя функцыянеры. Бо толькі так і не іначай я разумею той факт, што пад прапагандысцкую балбатню аб «уладзе партыйных мас» у абноўленай партыі рабочыя менш за ўсё былі абраныя дэлегатамі на «судьбоносный» XXVIII з'езд КПСС і на «звышдэмакратычны» XXXI з'езд КПБ. Партыйная эліта, дамагаючыся рэалізацыі палітычных правоў толькі для сябе, даўно здрадзіла сацыяльным вытокам КПСС — яго вялікасці рабочаму класу краіны. Зараз гэта відаць няўзброеным вокам. Далей. Ці не таму асаблівую раз'юшанасць выклікае ў кансерватыўнай эліты найпершае палітычнае і грамадзянскае права — права народаў і чалавека на палітычнае і эканамічнае самавызначэнне, як вынік — ПРАВА НА ДЗЯРЖАЎНЫ СУВЕРЭНІТЭТ? З'едлівае выслоўе «парад суверэнітэтаў» — не проста неасцярожная гульня слоў, гэта адлюстраванне пэўнай таталітарысцкай, імперскай тэндэнцыі.

Ці не таму, дэкляруючы эканамічныя і сацыяльныя правы працоўных як прыярытэтныя ў грамадстве, партыйна - дзяржаўная эліта працягвае палітыку эксплуатацыі прадпрыемстваў, калгасаў, устаноў духоўнай вытворчасці, выкачваючы з іх абсалютную долю прыбыткаў у казну, пакідаючы абражаючыя капейкі на «сацкультбыт»? Ці не таму ў абставінах катастрафічнага зніжэння матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва, яна раптоўна, не пытаючы ні ў кога ні парады, ні дазволу амаль удвая павысіла сабе зарплату ды намёртва ўчапілася за свае шляхецкія прывілеі? Ці не таму сёлета, нягледзячы на рэкордныя ўраджаі, на «парадку дня» ў шматлікіх рэгіёнах — зімова-вясенні голад?

І нарэшце. Ці не з прычыны моцнага атавізму дэспатыі і бяспраўя, нягледзячы на пяць год быццам бы перабудовы, ідэйна-палітычнага гладзіятарства ды палітычна-прававога цырку, у краіне не працуюць законы — галоўны дэмакратычны сродак рэалізацыі, аховы ды абароны правоў чалавека і народаў? Ды і як яны могуць быць паспяхова абаронены, калі амаль не існуе механізму аховы правоў чалавека ды дзейснага кантролю за абавязкамі дзяржавы ў дачыненні да грамадзян? Гэта ў той самы час, калі на ахове правоў дзяржавы і татальнага кантролю за абавязкамі грамадзян стаіць усемагутны механізм у выглядзе арміі, КДБ, Мінюста, суда, пракуратуры?.. Якім чынам правы чалавека і народаў могуць быць абаронены, калі ў структуры новай, перабудаванай вярхоўнай уладзе няма спецыяльнага Камітэта па правах чалавека? А брэжнеўская канстытуцыя, на якую працягваюць спасылацца высокія ўлады, не спяшаючыся з новым Асноўным законам...

Усё гэта сведчыць толькі аб адным: нам патрэбна яшчэ вялікая і цяжкая праца па глабальнай дэтаталітарызацыі дзяржавы, грамадства, кожнага чалавека. Але памянёны працэс не прасунецца наперад, калі не будзе рэалізавана галоўнае — ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА І НАРОДАЎ. Бо менавіта яны дадуць магчымасць узарваць таталітарызм, усталяваць высокадэмакратычны, гуманны баланс (раўнавагу) правоў і ўзаемных абавязкаў дзяржавы і чалавека. Гэта значыць — усталяваць абвешчаную палітычнымі лідэрамі прававую дзяржаву.

